# БЕЛАРУСКАЯ ССР



# ХРЭСТАМАТЫЯ ПА БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТАЛОГІІ

Пад рэдакцыяй
Р. І. АВАНЕСАВА і М. В. БІРЫЛЫ

Рэкамендуецца Міністэрствам вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў

ВЫДАВЕЦТВА АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
МІНСК 1962

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА імя ЯКУБА КОЛАСА

Складальнікі:
А. У. АРАШОНКАВА, М. В. БІРЫЛА,
Н. Т. ВАЙТОВІЧ, А. А. КРЫВІЦКІ,
Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ, А. Р. МУРАШКА,
А. І. ЧАБЯРУК

У складанні «Хрэстаматыі» прынялі таксама
ўдзел, прадставіўшы свае запісы,
І. М. ГАЙДУКЕВІЧ, П. М. ГАПАНОВІЧ
і С. А. ГРЫГОР'ЕЎ

## ПРАДМОВА

Гэта кніга з'яўляецца першай спробай стварэння спецыяльнага дапаможніка па беларускай дыялекталогіі для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў. Трэба адзначыць, што і раней нямала розных тэкстаў, асабліва фальклорных, было прыведзена ў многіх зборніках, складзеных этнографамі і фальклярыстамі П. А. Бяссонавым, І. І. Насовічам, М. Я. Нікіфароўскім, Е. Р. Раманавым, А. К. Сержпутоўскім, М. А. Федароўскім, П. В. Шэйнам і інш. Аднак змешчаныя ў гэтых зборніках тэксты былі неаднолькавымі па сваёй якасці, апрача таго, яны запісваліся ў розныя перыяды, пачынаючы з другой палавіны XIX і да 30-х гадоў XX стагоддзя. Усё гэта ўскладняла выкарыстанне такіх тэкстаў у навучальных мэтах.

Падрыхтаваная калектывам навуковых супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўста імя Якуба Коласа «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі» ў гэтых адносінах адрозніваецца паўнатой матэрыялу, які дае ўяўленне аб народных гаворках на ўсёй тэрыторыі Беларусі, вызначаецца аднастайнасцю апрацоўкі ўключаных тэкстаў з боку транскрыпцыі; нарэшце, характарызуецца тым, што гэтыя тэксты запісаны ў 1948—1960 гг., дзякуючы чаму адлюстроўваюць у літаральным сэнсе слова сучасны стан мясцовых беларускіх гаворак.

Непасрэднай крыніцай для ўкладання «Хрэстаматыі» паслужылі багатыя матэрыялы Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы, сабраныя шляхам экспедыцый вялікім калектывам дыялектолагаў БССР — навуковымі супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, выкладчыкамі, аспірантамі і студэнтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, Мінскага, Брэсцкага, Гродзенскага, Магілёўскага, Гомельскага, Мазырскага педагагічных і Баранавіцкага, Маладзечанскага, Пінскага, Бабруйскага, Аршанскага былых настаўніцкіх інстытутаў.

Па свайму характару змешчаныя ў «Хрэстаматыі» матэрыялы ў значнай частцы з'яўляюцца ўзорамі ўласна бытавой

мовы. Побач з імі даюцца запісы казак, легенд, песень, прыказак, загадак. (Фальклорныя матэрыялы маюць адпаведныя загалоўкі, а тэксты бытавой мовы друкуюцца без загалоўкаў). Большую частку матэрыялаў складаюць звязныя тэксты; нязвязныя ж прадстаўляюць сабою запісы паасобных сказаў, словазлучэнняў, выразаў, слоў; пры нумары такіх тэкстаў ставіцца зорачка— (*).

Для зручнасці карыстання ўвесь матэрыял у «Хрэстаматыі» размяшчаецца па абласцях з поўначы на поўдзень у наступнай паслядоўнасці: Віцебская, Магілёўская, Гродзенская, Мінская, Гомельская, Брэсцкая вобласці. Унутры ж абласцей размеркаванне яго ідзе па раёнах з захаваннем напрамку з поўначы на поўдзень і з захаду на ўсход, а ўнутры раёнаў — па населеных пунктах.

Кожны тэкст мае свой парадкавы нумар. Нумарацыя тэкстаў у «Хрэстаматыі» адзіная (ад 1 да 653). Пасля назвы населенага пункта ў дужках указваецца нумар гэтага населенага пункта на картах Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы, што дасць магчымасць супастаўляць адпаведныя даныя «Хрэстаматыі» з данымі Дыялекталагічнага атласа. Пры назвах населеных пунктаў, якія не ўвойдуць у Атлас, нумар не ставіцца.

У канцы кожнага тэксту адзначаецца, калі і хто запісаў матэрыял, а таксама ад каго ён запісаны і ўзрост асобы, ад якой зроблены запіс. У паасобных выпадках некаторыя з такіх звестак пад тэкстамі «Хрэстаматыі» адсутнічаюць з прычыны таго, што іх няма ў выкарыстаных крыніцах.

Да кнігі прыкладзена пяць дадаткаў:

1. Слоўнік незразумелых дыялектных слоў (у тэксце такія словы абазначаны зорачкай — *) з указаннем нумароў тэкстаў, у якіх данае слова ўжываецца. У слоўніку даецца толькі тое значэнне, у якім слова ўжыта ў тэксце «Хрэстаматыі».

2. Алфавітны паказчык раёнаў, з якіх даюцца тэксты.

3. Алфавітны паказчык населеных пунктаў, у якіх запісаны тэксты.

4. Карта-бланкоўка Дыялекталагічнага атласа з абазначэннем населеных пунктаў, з якіх у «Хрэстаматыю» ўключаны запісы.

5. Паказчык населеных пунктаў, абазначаных на карце (лічба паказвае нумар населенага пункта на карце і ў Дыялекталагічным атласе беларускай мовы).

## ТРАНСКРЫПЦЫЯ

Для абазначэння галосных гукаў ужываюцца літары **и**, **ê**, **е**, **ы**, **о**, **ô**, **у**, **а**, **ъ**, **ь**, а таксама спалучэнні **уо**, **оу**, **ие**, **еи**, **ые**, **еы**.

Літара **и** абазначае галосны нелабіялізаваны гук пярэдняга рада верхняга пад'ёму (*л'ѝпа, п'ила́, з'имава́ц'*, *вын'ес'и*).

Літара **ê** абазначае нелабіялізаваны гук пярэдняга рада сярэдне-верхняга пад'ёму. Гэты гук па акустычных асаблівасцях набліжаецца да гука **и** (*л'êс, б'êлы, п'êч, рêзац'*).

Літара **е** абазначае нелабіялізаваны гук пярэдняга рада сярэдняга пад'ёму (*с'ел'ан'ѝн, в'е́чар, во́з'ера, ре́чка*).

Літара **ы** абазначае нелабіялізаваны гук сярэдняга рада верхняга пад'ёму (*быў, пыта́ў, но́вы*).

Літара **о** абазначае лабіялізаваны гук задняга рада сярэдняга пад'ёму (*кон', мо́ра, л'он*).

Літара **ô** абазначае лабіялізаваны гук задняга рада сярэдне-верхняга пад'ёму — на слых блізкі да **у** (*вôл, кôт, нôс*).

Літара **у** абазначае лабіялізаваны гук задняга рада верхняга пад'ёму (*плух, руку́, л'уб'ѝц', з'амл'у́*).

Літара **а** абазначае нелабіялізаваны гук сярэдне-задняга рада ніжняга пад'ёму (*ха́та, дава́й, хачу́, рака́, в'асна́, ко́лас*).

Літары **ъ** і **ь** абазначаюць рэдуцыраваныя галосныя гукі няверхняга пад'ёму: першы пасля цвёрдых зычных, а другі пасля мяккіх (*въдано́с, з'ьмл'ам'е́р*).

Спалучэннямі **у͡о, о͡у, и͡е, е͡и, ы͡е, е͡ы** абазначаюцца дыфтонгі.

Для абазначэння зычных гукаў ужываюцца наступныя літары: а) для губных — **б, п, м, в, ф, ў**; б) для пярэднеязычных — **д, т, дз, ц, дж, ч, ж, ш, з, с, л, н, р**; в) для сярэднеязычнага — **й**; г) для заднеязычных — **г, г′, к, х**.

Такім чынам, пераважная большасць літар, якімі абазначаюцца зычныя гукі, у транскрыпцыі мае такое ж значэнне, як і ў беларускім арфаграфічным пісьме (**б, п, м, в, ф, ў, д, т, дз, ц, дж, ч, ж, ш, з, с, л, н, р, й, к, х**). Тлумачэнні патрабуюцца толькі для літар **г, г′**. Літарай **г** абазначаецца заднеязычны фрыкатыўны звонкі гук **г** (*галава́, памагл'ѝ*), а літарай **г′** — заднеязычны выбухны звонкі гук **г** (*мазг′ѝ, г′а́нак, ро́зг′и*).

Мяккасць зычных абазначаецца коскай ('), якая ставіцца зверху, справа ад зычнай літары (*л'ес, с'е́но*). Паўмяккае вымаўленне зычных абазначаецца кропкай (˙), якая ставіцца зверху справа ад зычнай літары (*р˙е́зац', ч˙ѝсто*). Кароткія гукі абазначаюцца дужкай (˘) над літарай (*пӑдал'ѝ*). Доўгія гукі перадаюцца двайным напісаннем (*нас'е́н'н'е*) ці рыскай (¯) над літарай (*ка̄н'у́, нас'е́н̄'е*).

## БРАСЛАЎСКІ РАЁН

### Карасіна (№ 5)

1(*) Йа н'е па свайой вол'и вышла замуш — бáц'ка аддáў. Мой муш, хай м'áккай бýдз'е йамý з'амл'йца, быў багáты, ал'е брытк'й и стары. Згул'áўшы было в'ас'ел'л'е, дýмала рáзуму л'ишýс'. Йа была прыгóжайа стрóйнайа — гéта ц'ап'ер старáйа и в'йду н'а мáйу. Жыл'й мы з йим лагóдна, н'а б'иў йон м'ан'é, йак гета было з майой с'астрой (йайé муш б'иў амáл' што кáжды дз'ен'). И што вы дýмайец'е, к'йнула йанá йагó; ц'ап'ер вышла зáмуш за другóга и дóбра жыв'éц'. А муш мой пам'óр у вайнý. Н'емцы спал'йл'и в'óску, и мы жыл'й у л'éс'е. У з'амл'áнцы л'ажáў бал'ны, а сырас'ц', гóлат, хóлат, тамý н'е ишлó на папрáўку и пам'óр. Н'емалóды ўжо быў. Жывý ц'ап'ер з малóтшай дóчкай, гадýйу ўнýкаў. Вот унýчку дз'éс'ац' гаткóў, а ўжо мóжац' кан'á запрагчы. Бáц'ка скáжац', а он и гатóў на ус'ó. Залаты унýчак.

*Запісана ў 1954 г. студэнтамі Мінскага педінстытута ад Я. Б. Зданкоўскай, 66 г.*

### Купчалі (№ 7)

2 Тýтака н'е было прын'ата кл'ев'ир с'éйиц'. Н'ет у нас лóнак*, кап атáву мóжна было кас'йц'. Гéта дз'е зал'иўныйа лóнк'и, а ў нас дз'йк'ийа. Кл'ев'ир ужó у прóшлым гóдз'е пас'éйил'и тры г'ектáры, у гéтым — двáцац' шес'ц'.

Заўчóра мы в'анóк стáв'ил'и. Йак йакýйу будын'ину рóб'ац', и кал'й закáнчвайуц' рабóту, дык в'анóк стáв'уц'. Кал'й прывáтны будынак — дак хадз'áйин, кал'й калхóзы, то прытс'ад'áц'ел' дóлжън заплац'йц'. У нас дажынк'и рóб'уцца.

*Запісана ў 1951 г. А. І. Жураўскім ад А. В. Мацеша, 56 г.*

### Іланцы (№ 6)

3 М'éл'н'ик м'éўшы трох сынóў, ал'е йим н'ашчáсныйа слýчайи случáл'ис'а. У аднагó нóг'и паламáўшы. Жыў там пáру м'éс'ицаў прыблýда Кас'йба. Адз'йн рас пашóў йон да бал'нóга

сы́на м'ел'н'ика. Кас'и́ба спра́шываў, што ў йаго́ з нага́м'и. йи пас'л'а гаво́рыц': «Йа ц'абе́ магу́ вы́л'ачыц', ал'е на́да нано́ва таб'е́ но́г'и лама́ц'».

Сын аглаша́йиц' ба́ц'ку, што на́да нагу́ лама́ц'. Ба́ц'ка н'а згаджа́йицца. Ал'е по́тым дагавары́л'ис'и. Йи вос' ге́тый прыблу́да пачына́йиц' прыгатаўл'е́н'а: стол прыгато́в'иў, п'и́лк'и. Пато́м ро́б'иц' угаво́р, што йон н'а пу́с'ц'иц' бац'ко́ў, пакул' н'а вы́л'ачыц'. Йи пача́ў л'ачы́ц'... Прыхо́дз'иц' ба́ц'ка и ма́ц'и, ба́чуц' — сын идз'е́ц'. Ба́ц'ка прыно́с'иц' ша́пку зо́лата — стары́к н'ичо́га н'а б'аре́ц'. З ге́тага вре́м'а пашла́ пра йаго́ бал'ша́йа сла́ва. Ус'е́ ста́л'и да йаго́ прыхо́дз'иц'.

*Запісана ў 1951 г. студэнткай Белдзяржуніверсітэта Я. І. Уладыка ад Ф. Пузырэўскага, 29 г.*

## Хвасты (№ 9)

4(*) От йа йашче́ на вос н'и наклада́ўшы, а ўжо пан'има́ла, йак наклада́ц' пласт ад йако́га чалав'е́ка. А гаво́рац', йе́с'л'и вос набудава́ц' до́бра, то бо́л'ей б'ис таранта́са *, йак с таранта́сам пав'аз'е́ш. У нас з'имо́й йе́дуц' пад Дз'исну́. Л'е́там стох там ло́жуц', а з'имо́й йе́дз'им заб'ира́ц', то ўжо пад же́рдку уц'иска́йим. Йак даўн'е́й па н'и́уцы г'е́тай йе́дз'иш, то н'и растрас'е́ш б'аз же́рдз'и, бо ўжо зро́б'ил'и дл'а выго́ды таранта́с.

Ц'ап'е́р, кан'е́чна, ска́жац' и н'е па-б'елару́ску и н'е патуте́йшаму. Дажа йак зайшл'и́ ру́ск'ийа салда́ты ў саракавы́м гаду́ и стайа́л'и. Адз'и́н аб акумул'а́тара гаво́рыц'. Даге́тул' н'и зна́ла, и с'ича́с зна́йу. Ужо кал'а Бо́г'ина так гаво́рац'. Мы кал'и саб'е́рамс'а ра́зам, то пан'има́йим. Н'е раз'б'аро́ш тут настайа́шчага йазыка́. Згавары́цца згаво́руцца, ал'е н'има́ аднаго́ йазыка́.

Прышла́ да нас стару́шка й гаво́рыц': «Прапа́ў радны́ м'ех». Йа ду́майу-ду́майу, ц'и гета ад радн'и́ м'ех? Пыта́йу йа: «Што гета ў вас зо́в'аца радны́ мех?» Ц'и мо йана́ ад радн'и́ прыв'азла́, ц'и гета што и́ншайе.

У нас даўн'е́й гавары́л'и, кур́ыца—ге́та капа́л'н'ица. Кал'и вы́грабла — ка́жуц' скас'и́ла. Йа ду́майу, йак ге́та куры́ца мо́жа скас'и́ц'? И па с'в'е́ц'е наро́т. Ка́жны свой абы́чай ма́йиц'.

*Запісана ў 1951 г. студэнтам Мінскага педінстытута П. П. Шубай ад С. К. Алехны, 59 г.*

## Дуброўкі (№ 12)

5(*) Малы́ брадз'ан'о́к йос'. Йа вот л'убл'у́ хадз'и́ц' на ры́бу. Йос' там ры́бы, йос'. У во́з'ера ухо́дз'иц' и зноў у аз'о́рка захо́дз'иц'. Ло́в'им удвайо́х: адз'и́н стайи́ц' пас'аро́д и дз'аржы́ц' за кан'е́ц, а друг'и́ заграба́йиц'.

— А хто ав'е́чак пас'е́ц', Тол'а?

— А на во́ўка йаны́, бара́ны, на хваро́бу. Ал'е сто́л'ка ав'е́чак.

А ўжо друга́йа радо́ўка * идз'е́ц'. У Цифо́навых адна́ ав'е́чка й чатэ́ры бара́ны. Му́с'и ш, па́с'ц'ила ж дз'аўчы́на. В'асно́йу ж гетак йагн'о́нак малы́. Тры ав'е́чк'и з'имава́л'и. Ге́тул'к'и бара́наў. Што з' йих за толк, з бара́наў. Н'има́ и во́ўны. Н'е́чу ав'е́чку дак чы́ста з'б'ил'и. Йа па́с'ц'ила, дак ус'о падыма́ла ге́ту ав'е́чку.

— Ал'и́на — гета уну́чка, майе́й дачк'и́ дачка́. Тут у в'о́сцы жыву́ц' н'идал'о́ка, от тре́ц'и дом. Йина́ ужо зана́та байава́йа. У По́лацк зваз'и́л'и, дак н'е́шта ў гало́ўку ўб'и́лас'а, ў валаск'и́, го́лайа гало́ўка. Л'ижа́ла ў бал'н'и́цы.

*Запісана ў 1951 г. студэнтам Мінскага педінстытута В. Ц. Мяцельскім ад сям'і А. К. Аўсюка, 61 г.*

## ШАРКАЎШЧЫНСКІ РАЁН

### Крушталі (№ 39)

6 У пан'адз'е́лак ра́н'ин'ка, чуц' на зо́лачак, атакава́л'и н'е́мцы на́шу в'о́ску. Прышо́ў н'е́м'ец у кварц'и́ру, за шк'и́рку м'ан'е́ — и на сабра́н'е. На ву́л'ицы м'ан'е падхвац'и́л'и, йак че́рц'и гре́шнуйу душу́, и да С'ц'о́пк'и Ланско́га на кварц'и́ру. Сабра́л'и нас два́ццац' во́с'им мушчы́н. Дз'е́с'иц' чалав'е́к атшчыта́ў, вы́в'иў вон, паг'ирг'ита́л'и н'е́шта, абра́тна нас у кварц'и́ру угна́л'и, пато́м дава́й па адны́м вызыва́ц'. Дз'в'е́ры 'тчы́н'уц' — «ал'т!» крыча́ц', аднаго́ во́з'муц' и застре́л'уц'. Шес'ц' чалав'е́к паадз'ино́чку вы́в'ил'и и застре́л'ил'и. Астал'ны́йа н'и пашл'и́. Дава́й н'е́мцы грана́ты праз во́кны к'ида́ц'— а мы грана́ты наза́д атк'и́дывац'. Вы́к'инул'и грана́ты, дз'в'е́ры вы́ламал'и, а нас ужо упал'и́л'и. Мы н'е на ву́л'ицу бро́с'ил'ис'а, а на двор, двор быў абн'е́с'ены пастро́йкам'и, ул'е́з'л'и у кало́дз'иц у адз'ин ус'е во́с'им чалав'е́к. Йа з ге́тага кало́цца у друг'и́ п'ерал'ац'е́ў и с'адз'е́ў адз'и́н пака́ с'ц'амн'е́ла. Вы́л'ис с кало́цца ц'ирас су́тк'и, пашо́ў да рак'и́, закуры́ў и пашо́ў у л'ес.

*Запісана ў 1951 г. студэнткай Белдзяржуніверсітэта В. Б. Хацкевіч ад Р. В. Касцюкевіча, 51 г.*

## МІЁРСКІ РАЁН

### Трыбухі (№ 26)

7(*) Ны в'ичары́нку у н'адз'е́л'у дз'иўча́т друг'и́й рас наб'е́рыцца палсо́тн'и штук и бо́л'ий. И з друг'и́х в'о́сак прыхо́дз'ац'. Харо́шый брыгадз'и́р у нас — мылады́й, ус'о б'е́гыйиц'. Ты́йа дн'и ц'о́пла было́, а с'о́н'н'а захылыда́ла и дошч с'о́н'а ныстыйа́шчый прасы́паў. Н'ида́ўна у нас бу́ра была́ два дн'и

пыдра́т: адну́ ноч бура́н, а на другу́йу — йшче бо́л'шый. У йа́блыны сук аткруц'йла. Каладз'иц у нас пад бо́кам. Н'и глыбо́к'ийи ў нас кыпа́йуц' — м'е́тры тры ды вады́. Йак у ла́з'н'у вы́б'ерыш, дык саўс'и́м н'има́ вады́. И круко́м, и ланцуго́м, кру́ц'уц' круц'о́лкай. Во́чып — тыка́йа па́лка с ц'в'ачко́м: нав'е́шайиш в'адро́, заче́рпн'иш и ц'а́гн'иш йаго́. Так'и́м'и кручка́м'и и ц'а́гнуц'. Ре́чка ў нас н'идал'о́ка — с к'ило́м'итыр, му́с'и, бу́дз'иц'.

Ган'и́ ты ву́так. Йета ме́ншый, са́мый ста́ршый у а́рм'ийи аста́ўшыс'и. Гырадо́к кыла Л'у́бл'ина, там и жыв'е́ц'. З'имл'а́, п'и́шыц', др'е́ннайа. На́ша з'имл'а́ фа́йнайа. Н'и пым'ин'а́йим. И камн'е́й вре́дных н'ет, — пупыда́йуцца, ды ма́ла, бо́л'шы пы в'арху́, и в'и́дна йих. Ро́мус', идз'и́ прыв'адз'и́ бычка́. Н'а по́йдз'иш? Так'и гул'тыйава́тый хло́п'иц. Идз'и́ в'адз'и́ йаго́: ты ма́лый й йон ма́лый — па с'и́л'и. С дрыва́м'и у нас саўс'и́м н'и харашо́. Са ўре́м'им пры́дз'ицца торх кыпа́ц'.

*Запісана ў 1951 г. студэнткай Мінскага педінстытута З. К. Ткачук.*

## Казлы (№ 32)

8(*) Ужо на на́шай па́м'ац'и на ре́дал'и * ваз'и́л'и с'е́на, вазы́ панакладаа́л'и в'ал'и́к'ийа. У паса́т * л'е́з'ец' паўкапы́. Цапа́м'и малац'и́л'и. Со́хам'и, йа по́м'н'у тро́ху, йак ара́л'и, а дз'ирав'а́ным'и в'и́лам'и гной капа́л'и. А учо́ра, му́с'и, лас'и́ ишл'и́. Ко́зы дз'и́к'ийа йос'ц', заво́дз'уцца с'в'и́н'и дз'и́к'ийа, лас'и́ прыхадз'и́л'и да гаро́ху.

Даўн'е́й дава́л'и паса́г'и бал'шы́йи. Дава́л'и каро́ву, а то и дз'в'ух.

*Запісана ў 1951 г. студэнтамі Мінскага педінстытута І. К. Германовічам і В. А. Каваленкам ад Н. В. Дзеўяковіча, 38 г.*

9(*) Лаза́ н'икуда́ н'е гадз'и́цца. Крушы́ну прын'има́йуц', ус'а́к'и тава́р. Айи́равыйи каре́н'и на л'ика́рства иду́ц'. Г'е́ту кару́ у заво́т атпраўл'а́йуц'. У нас пры По́л'шчы н'е дазвал'а́л'и садз'и́ц' таба́ку, до́лжан быў ус'о́ пакуп'и́ц'. Куре́ц за гот каро́ву праку́рыц'. За п'иц'дз'ес'а́т грам — шес'ц'дз'ес'а́т п'ац' гро́шай, а дз'е́с'ац' гро́шай сто́йала лу́бачка с'п'и́чак. Йа сам каро́ву за гот праку́рваў. Са́хар до́рах быў.

*Запісана ў 1951 г. студэнтамі Мінскага педінстытута І. К. Германовічам і В. А. Каваленкам ад П. Ф. Сакалоўскага, 50 г.*

## Мілейкі (№ 35)

10(*) Мы байа́л'ис'а, ду́мал'и з бра́тавайу н'е патра́ф'им. Ус'о́ памал'е́н'ку дало́с'а. Вайно́й запа́су н'е было́. Йак бы вайна́ н'е была́, то л'у́дз'и был'и́ п крапче́йшыйа.

Вот йак мы за́муш ишл'и́, так нас в'анча́л'и, а ц'ип'ер ужо́ и так зап'и́шуц' и ус'о́. Ду́майец'е в'ан'е́ц памага́йе — н'е, тут со́в'ес'ц'.

Нам со́тк'и да́дз'ены. У нас ус'е́ на рабо́ту хо́дз'уц'. За рабо́ту аж сва́рацца.

Мы ў шко́лу хац'е́л'и. Што йа зро́бл'у адна́? Вот йа и сама́ по́мн'у. Гра́матнас'ц' — бал'шо́йе дз'ела. А с'аго́н'а мы в'и́дз'им, што наро́т с'в'атле́йшы стаў.

Нас адз'и́н про́с'иц': «Раскажы́ц'е, йак в'ас'е́л'е ро́б'ац'». Тады ста́л'и прас в'ас'е́л'е гавары́ц'. Прыйажа́йуц' да маладу́х'и, там гул'а́йуц' и ра́н'ицай и в'е́чарам. Малады́ во́тк'и прыв'аз'е́ц', маладу́ха заку́ск'и стро́йиц'. Тады́ ужо згаво́руцца. А быва́йе н'е згаво́руцца — па с'амйе́ разб'ира́йуцца, гл'идз'а́ц', кап фам'и́л'ийи харо́шай быў. Дз'е́вушка выб'ира́йец', а йак н'е пат но́раў, то бу́дз'ец' прас'и́ц': «Заплац'и́ц'е малаGо́му».

*Запісана ў 1951 г. студэнтамі Мінскага педінстытута І. К. Германовічам і В. А. Каваленкам ад Л. І. Лакоткі, 33 г.*

## ДРЫСЕНСКІ РАЁН

### Нарушова (№ 1)

11(*) Нас было́ тры браты́. Ста́ршаму надз'ел да́л'и, а са́м'и раздз'ал'и́л'ис'и, пъ дз'в'е дз'ис'ац'и́ны вы́шла на бра́та. К'е́пска было́ жыц'. Пры Сав'е́цкай ула́с'ц'и дабаўл'а́л'и з'амл'и́.

Была́ вайна́ ко́нчыўшы. Мы прышл'и́ п'ац' хыз'а́йинаў и сырган'изава́л'и калхо́з. С'им'ану́ нас'и́л'и з Дры́сы.

Про́шлый гот йе́тай паро́й ужо дз'е́с'иц' ск'и́рдаў с'е́на было́. Ше́с'ц'дз'ис'ат г'икта́р пачк'и́ * адны́м рука́м мо́жна уб'е́рыц'. Йа ду́маў, со́нца ўжо зайшо́ўшы, йано́ ўс'о́ йашчо́ с'в'е́ц'иц'.

З'има́ зла́йа была́. Пыд утро́ мыразы́, уйу́г'и, у ро́ўн'и с кры́шай было́ нав'е́йаўшы. Л'игла́, атдыхну́ла, п'е́чку истап'и́ўшы. Мн'е ш г'е́ту нагу́ тра́ктарам палама́ўшы и друг'и́й рас пас'е́кшы.

Го́ды сы два падз'аржу́ индык'и́, тады́ саб'е́ п'ары́ну здз'е́лайу.

И во́з'ира на́ша пам'ал'че́ла, за то́йа што спус'ц'и́л'и ваду́. Ужо и ба́йн'а ц'е́пл'ицца, мы́цца по́йдз'им.

У м'ан'е́ два ра́йи у адны́м гн'аз'дз'е́. Укус'и́ла майго́ старо́га, ус'а́ шчыка́ по́хн'иц'. Ты н'и зна́йиш жыга́лы, йак ц'аб'е́ н'и укус'и́ўшы.

*Запісана ў 1952 г. студэнткай Мінскага педінстытута З. К. Ткачук.*

### Поціна (№ 2)

12 Закры́ўшы ваду́ сыча́с, зато́йе пра́ма заро́счы так'и́м бало́там. О́страў на той сто́ран'и. Йа тут и зарадз'и́лас'а, а н'и

ба́чыла такóй вады́. Пра́ма тóл'к'и дз'йўна былó. С'óл'ита н'éгдз'и и купа́цца. Бóл'шыйи мал'чан'а́ты з'б'éруцца, адйéдуц' у лóтк'и и купа́йуцца. Мнóга и ву́так, и гус'éй, и ча́йик, и кн'и́гавак. Йанó былó с куста́м такóйа. Ахвóтн'ик'и стрыл'а́ц' пайéз'дз'уц' на лóтках. Ры́ба н'и ста́ла лав'и́цца, йана́ разыйшóўшы па ўс'им вóз'иры. Ты́йи гады́ мой сын л'ав'и́ў ры́бу. Йак мы дл'а [ля] вóз'ира жыв'óм, дык жыў тóл'к'и з ры́бы. В'аснóйу на́раст. Йана́ так'и́м урéм'ем з'б'ира́йицца ў ку́чу. Йак икру́ м'éчыц', так'и́м ку́чам хóдз'иц', тады́ л'éгчы. З'в'аз'óм, пъста́в'им з дачкóй [нерат]. На́шы мушчы́ны нала́ўл'ивайуц' пуды́ па чаты́ры. Л'ашчы́ бал'и́ дл'а с'иб'é. Л'а б'éрагу жыву́ц' и н'и паку́шайуц' ры́бы, йак адны́ жаншчы́ны. Жаншчы́на н'éрат н'и з'дз'éлайиц'. Лóв'им стары́м'и гéтым'и, а йак з'дз'éруцца, йа ш н'и з'дз'éлайу нóвых. У нас йос'ц', што адна́ ры́б'ина к'илагра́м п'ац'-шэс'ц'. Така́йа — дл'ин'н'ин'и́ са скам'éйку. Л'ашчы́ так'и́йи н'и бал'шы́йи, ал'е шырóк'ийи. Л'ин'и́, плóтк'и, акун'и́. Йос'ц' кру́пныйи ры́бы. За шчу́ку н'ет бóл'шай ры́б'ины. Быва́йуц' пы паўпу́да. В'аснóй кóл'уц' л'от и вас'ц'а́м'и лóв'уц'.

*Запісана ў 1952 г. студэнткай Мінскага педінстытута З. К. Ткачук.*

## Зайцава (№ 53)

13 У нас тут жыў дз'ет — прамы́ быў мужы́к. У йагó два сыны́ был'и́ так'и́йи в'ал'и́к'ийи, ц'и́х'ийа н'éйк'ийи ма́л'цы. Йаны́ н'и им'éл'и н'ийа́къй наву́к'и, абръзъва́н'ийа. И вот адз'и́н прыду́маў устрóйиц' цымба́лы — са́м'и йигра́л'и, патóм у пац'ихвóн плас'ц'и́нку устрóйиў — и игра́йиц'. Шчыта́л'и йаго да́жа дурукува́тым: ус'ó адз'и́н хóдз'иц', н'и гул'а́йиц', н'и пйец'. Састрóйиц' што. А йéс'л'и п йаму́ абразава́н'ийа, то чорт в'éдыйиц', што йон мог бы прыду́мъц'.

*Запісана ў 1954 г. А. А. Крывіцкім ад І. В. Татарынава, 80 г.*

## Шатрова

14(*) У брага́ду. А гéта ш Ма́ркав'ичы пóйдуц'. Йа н'и зна́йу, бува́йуц', му́с'а. Г'éта. Бу́дз'иц' гул'а́ц'. Так йак саб'éруцца. Гéта ш пасту́х мóжац' твары́ц'. Н'ида́ўна. У нас Баркав'и́цы йес'ц'. Сматры́ц'и. Йон н'а игра́йец'. А у нас ишчо жéншчыны. Кóжны в'и́дз'иц'. Йа во пасматру́. Во майé сас'éды. На ка́ртачку гл'идз'éл'и. У йагó н'ет бра́та н'ивóднага. Жóнка тут аста́ўшыс'. Йа йак была́ малада́йа. Гéта ш н'а гул'а́шчы чалав'éк. Йон быў ка мн'е прышóўшы. Ма́л'цы вóдз'уц'. Игра́йец'. У пóйез'дз'е йéдз'а [едучы], н'ичóга н'а на́да адз'ава́ц'. Йа была́ прын'асла́. Куда́ йайé там буду́ адз'ива́ц'. Йа ў Ры́г'и в'и́дз'ала. Йак у гóрадз'и, н'а ку́шайец'. Папрашу́ йих, йак прыйе-

дуц'. Спрáўл'у свáдз'бу. Н'а в'йдз'ала. Бывáла, йак прыдз'еш, йон с'ичáс на п'еч л'ац'йц'. Пайдý гл'идз'éц', ц'и йос'ц' прыйéхаўшы. Йак в'éчар, так тут пóўна. Қáжац', ажан'йўс'а Шýрка. Атйижджáў. Йон ужо ц'йхан'ка н'и пас'адз'йц'. Пóйдз'ец' на хрéс'б'ины да М'ин'кóва. Н'а ўкýсна. Н'ик'йпар жа пóйдз'ец'. Вот йанá мн'е пахóжа да Тамáры. У м'ин'é йос'ц' кл'ýчык. Гáл'а ш пóйдз'ац' у йáгады. Там, кáжац', п'еравóзуц' и п'еравóз'уц'. Учóра к'йнала. Во икáйа. У вас, в'éрна, ўс'о кап здарóвы. Майá с'ам'éйка разлучылас'а. Ды н'агóш ты н'а п'илá? Йа во н'а л'убл'ý, йак дз'áц'кам завýц'. Вот йак празнáўшы [прызнаўшы]. Дз'в'éс'ц'а грам. Пагл'аджý, ц'и мóжна аткарм'йц' йайé. Пам'éжды радных пражыв'éц'. Чалав'éк прабл'ижáйецца. Қазáла, йак йéхала у вагóн'е. Н'ив'éстку прыв'азлá. М'óду такóга, йак з Запас'йшак прыв'аз'л'й. Йа ш быў хаз'áйинам. Йаны вып'ил'и ус'éй грамадóй. Нóччы йéхаў. Да Йвáна бл'йжы. Йак трéс'н'ац', с'идз'éў. У канцал'áрыйу. М'ах'й нóс'иц' и нóс'иц', на шóф'ира. А так былá п йéйнайа н'ав'éстка. Н'ахáй пасылку нам вышл'иц' с'уды. Йа вот благ'й чалав'éк. Быў у áрм'айи. Начáл'ства трéбуйиц'. И кáждаму чалав'éку нáда. Хáта с'ц'идз'óнайа. В'аз'л'й ў Рыгу на машын'и. Тут бувáла грамафóн играў. Йа Гушчýху тýйу зас'п'éла. Мазукáнт. Йа вот ужó катóруйу ноч н'а спл'ý. Ц'ап'éр у ц'в'аты ткуц'. Мáл'цы тóл'к'и и жыл'й ў аднóй хáц'е.

*Запісана ў 1951 г. І. М. Гайдукевічам ад калгасніцы, 55 г.*

## Цінкаўцы

15(*) Йанá былá пайéхаўшы. Йанá былá пайéхала ў васкрас'éн'н'е. Тут у нас йос'ц' старык. Гéтаму пáну рабóтал'и, Багданóв'ичу. Н'а с'л'йшкам. Йашчó быў фóл'варак Бац'анóва. А жанý йон с'иб'é браў высóкага звáн'н'а. Йа быў вышаўшы на пас'óлак, пастрóйил'ис'а. Йа з г'éтай дз'арéўн'и выхадз'йў. М'éлк'ийи пас'óлк'и стáл'и снас'йц'. Нóччу кавал'арысты, ну и п'éшыйи, б'ас прóпуска н'ил'з'á была. Саўс'óм, м'ис'ц'éчка. Час'ц'éн'ка бувáйе. У гéтым гадý н'е былá зан'áўшы. Былá прывыкшы ўжо, жылá ў ц'ишан'é. Быў разрашыўшы палав'йц'. Былá п'ерасóхшы, в'аснóй хóдз'ут, п'арасахáйет. Гдз'е мóжна п'арайц'й. Пам'éшчык им'éл им'ен'н'и, л'асы и футары. А вот н'и знáйу н'ичавó. Прóўда. Қанцал'áрайа у Нóв'аках, старшын'á, вóпчаства, там л'удз'éй н'и так мнóга.

Йичм'éн', у брагáдах. У нас йайé и н'а с'éйал'и. С'в'йн'н'и йес'ц'. Саўс'óм, так лýччы, пашлá па пóл'у, што вас'амнáццац', штук п'идз'ис'áт, н'амнóшка лýччы бýдз'иц'.

Н'и знáйу, былá нá з'иму ўспахáна, п'ирапáшку з'дз'éлал'и, распáхавал'и глабóка, радавóй с'éйалкай с'éйал'и. Гонт в'аз'л'й пóс'л'и вайны, дз'араўный. Ц'ил'éх. Рабóтайиц', им'éйиц'. Аткýда прагнáл'и [прыгналі], астáл'ис'и. Быў прыслáны да нас. Ина

ідз'от, паступ'ила работац'. Н'ачыстайа с'ила. Два бал'шыйи цыпл'онк'и, индакам, тол'к'и крап'ивы, прыв'аду, турн'епс н'и йадуц'. Трох штук здаў, у с'ан'ах, тут йак прец', пупулам, шче куп'уц', пагаваруц'. Тройе лашадз'ей прапала. Дз'в'ух кабыл'иц уз'ал'и. Араставал'и. М'ин'е пападз'от у карман. Нада п'арасушвац'. Плашчадз'а харошыйа. Высапаўшы быў грав'ий. У п'итнаццатам гаду. Адз'ин пастройиўшыс' йес'ц'. Вадакачку был'и ўв'ал'ичыўшы. Стараста васалайец'. Астал'ис'и, разгавары́л'ис'и. Куда йон быў папаўшы. Прысалайиц'. Н'адаўна быў прайехаўшы [прыехаўшы]. Дз'ис'атага.

*Запісана ў 1951 г. І. М. Гайдукевічам ад калгасніка, 57 г.*

## Бажкі

16 Пас'л'едн'ийи дн'и мы был'и ў С'ам'онаўск'их кус'ц'иках, акала дз'ареўн'и С'ам'онава. Пас'аредз'ин'е их быў мал'ен'к'и бугурок, сухойе м'еста, а кругом балота. Жыл'и мы там так можа н'адз'ел'и дз'в'е-тры на тым м'ес'ц'е. Пръхадз'ил'и туды парц'изаны, хац'ел'и п'ерайц'и бал'шак. Фронт быў ужо саўс'ом бл'иска. Снарады рвал'ис'а кал'а нас. Нам нада было п'ерайц'и на ту старану, там был'и ўжо парц'изаны. Мы тры начы падрат патал'ис'а п'ирайц'и, но н'им'ецкайе дв'ижен'н'е с'ил'на бал'шойа было. Пъс'л'а таго мы астанав'ил'ис'а пас'арот гетых кус'ц'икаў. Наўтра стала ц'иха. Слышан был н'ам'ецк'и разгавор, а патом сразу стала ц'иха. Мы с'идз'ел'и пад етым дз'ераўцам. Снарады ц'ираз нас с'в'истал'и. Ета з' в'ечара. А наўтра стала ц'иха. Бой уц'их, и, вапшче, разгавору дажы н'и стала слышна н'идз'е. И вот рашыл'и паглъдз'ец'. Уз'л'ез'л'и на йелку. Стал'и мы сматрец'. Н'ичога н'и ув'идз'ил'и. Кругом бала ц'ишана. Врем'а будз'иц' часоў так пад дз'в'инаццац' дн'а. Часоў так у дз'в'инаццац' пръл'ац'еў самал'от. Саўс'ом н'из'ен'ка, са з'в'оздачкай. Мы абратна з Гардз'ейем на б'ерах, на ту йолачку. Мы зам'ец'ил'и, што дз'в'игалас' война. А с'уда дал'ша бой прадалжаўс'а. Мы, кан'ешн'е, н'и знал'и, чыйо гета вайско. Мы абратна рашыл'и ищ'и на б'ерах, узнац' точна. Уже падашл'и танк'и с аружайам с ус'им. Вопшчам, фронт настайашчы. Гардз'ей гаворыц': «Йа выйду на б'ерах». И разгавор мы услышал'и, руск'и разгавор. Мы жджом Гардз'ейа, а йаго там ужо зам'ец'ил'и красныйа, што йон патпаўзайиц'. Йон стаў уц'икац', а йаны за йим. Прыб'егл'и да нас. Прыб'ехшы ў геты акопчык, йон скочыў да нас. Гаворыц': «Н'емцы ил'и нашы, н'а знайу». Нас н'и магл'и найц'и зразу. А нам праз з'амл'у в'идна. Мы рашыл'и выйц'и. Тут зразу закрычал'и «ура!». Йа ахрыпла, дз'в'е н'адз'ел'и н'и разгуварувала.

*Запісана ў 1951 г. І. М. Гайдукевічам ад Н. Т. Нарубень, 23 г.*

## Вознава (№ 21)

[17] Йакóйе гéта ў чóрта жыц'ц'ó былó, прáўда, мы ишчé па сраўнéн'у с друг'и́м'и жыл'и́ дóбра, таму што ў нас ус'á с'имйá былá рабóчайа. Хоц' мы раб'и́л'и дз'ен' з нóчу, н'е в'éдал'и н'икóл'и óттыха, ал'е затóйе кал'и́ пры́дз'иц' йакóйе с'в'áта, то ўжо хоц' кусóк л'éпшага хл'éба папрóбуйиш. А жыл'и́ ш л'ýдз'и, што и дз'иц'éй былó мнóга и бац'к'и́ тóл'к'и удвайи́х рабóтал'и. Ну и што ш вы саб'é дýмайиц'и́, йаны́ сáм'и чуц' нóг'и ц'игáл'и, а дз'éц'и пам'ирáл'и кáждый гот. Вот, напрым'éр, во тут, прóц'иў нáшага дóма, дз'е вун гéта в'ирбá стайи́ц', стайáў дóм'ик пры царý. Жыл'и́ там двóйа — дз'ед з бáбай. Ус'ó урéм'а былó ў йих 6 дз'иц'éй, таму што кáждый гот адз'и́н ум'ирáў и адз'и́н радз'и́ўс'а, а патóм за адз'и́н гот трóйа пам'óрла. Йакрáс быў галóдный гот, ды и йаны́ ўжо и сáм'и чуц' с гóладу н'е паўм'ирáл'и. Ох! дз'éтк'и майé, начáц' ус'ó раскáзвац', дык за н'адз'éл'у не раскáжыш. Скажý тóл'к'и — шчас'л'и́выйи вы, што вам так н'е прышлóс'а жыц', а мы ў мóладас'ц'и хл'ибнýл'и гóра.

*Запісана ў 1951 г. студэнткамі Мінскага педінстытута В. І. Міхайлоўскай і Р. Ф. Фіндрык ад І. А. Пірага, 69 г.*

# ПОЛАЦКІ РАЁН

## Глінішча

[18] У тóйа врéм'а н'éмцы дýжа л'удз'éй страл'áл'и. К нам у в'óску прыйéхал'и на друг'и́ дз'ен' ражаствá. Ус'и́х вы́гнал'и ў другýйу в'óску. Гéта былó у сóрак трéц'ц'им гóдз'и вас'мóга йинварá ýтрам, шчытáй, у дз'éв'иц' гадз'и́н. Устáл'и мы вýтрам. Тады́ хаз'áйин гавóрыц': «Н'éмцы йдуц'».

Прышл'и́ н'éмцы ў хáту и забрáл'и дакум'éнты у маладз'óжы. А патóм стáл'и заб'ирáц' скац'и́ну, с'в'ин'éй на м'éс'ц'и страл'áл'и и н'ижывы́х йих в'éз'л'и. Ав'éц и карóў гнáл'и жывы́х. А патóм стáл'и выган'áц' астал'ны́х л'удз'éй, а дз'арéўн'у запал'и́л'и. П'ац' дз'ирав'éн' зарáс, дз'еддóм и п'итóмн'ик: нáше Гл'и́н'ишча, Трóсна, Б'éцка, Вóражн'а, Шкóлк'и, Чарнарýчча, Рабак'и́. С Трóсна л'удз'éй и скот атрáзу вы́гнал'и на бал'шáк и йих пагнáл'и атрáзу ў лáг'ир, а нас вы́гнал'и у балóта, а карóў и мушчы́н пагнáл'и дáл'шы. У Чарнарýччы быў йих збóрны пункт, а бап, раб'áт, кал'éк брóс'ил'и ў балóц'и. «Пастóйиц'и, — сказáл'и, — з'дз'ес'». Йаны́ ат нас атх'инýл'ис'и, а мы хто куды́. Мы ў балóц'и прас'адз'éл'и да в'éчара и сабрáл'ис'и ў дз'éв'иц' часóў ап'áц' у свайý дз'арéўн'у. Нашл'и́ цéлуйу бáн'у н'изгарéўшуйу. Тады́ мы ў гéту бáну згруз'и́л'и раб'áт и стáл'и йéс'ц'и искáц'. У кагó сáла згарéла, стáл'и гéта гарéлайа сáла брац', раб'áт карм'и́ц' и сáм'и йéс'ц'и. К нам з л'éсу уц'аклó дз'в'е карóвы. Мы йих паймáл'и и стáл'и дайи́ц'. З забóра лучы́ну шчапáл'и и ас'в'ашчáл'ис'а, а патóм

ста́л’и асуждáц’, што нам тут н’а м’éста. Бýдз’им уц’икáц’ к парц’изáнам у Б’éцка. Асталóс’а у нас дз’в’е падвóды. Мы в’éшчы нагруз’и́л’и и пайéхал’и ў Б’éцка. Прыйéхал’и ў Б’éцка, нас парц’изáны прын’áл’и. Там былó дз’éв’иц’ хат згарéўшы, ал’е мы пам’ас’ц’и́л’ис’. Былó па двáццац’ чалав’éк у хáц’и. Аджыл’и́ мы там дз’в’е н’адз’éл’и, а аттýл’ н’éмцы вы́гнал’и. Тады́ п’ирайéхал’и у дз’арéўн’у Рýччы. Аджыл’и́ мы там тры м’éс’ицы, вы́гнал’и н’éмцы нас и аттýл’. З двáццац’ п’áтага мáрта па стáраму с’адз’éл’и мы ў л’асý да мáйа. Патóм и аттýл’ вы́гнал’и. Тады́ мы вы́йихал’и у дз’арéўн’у Ам’ил’л’áн’к’и В’éтрынскага райóна. Вы́гнал’и и аттýл’ н’éмцы. С’адз’éл’и мы там тóл’к’и дз’в’е н’адз’éл’и у Ам’ил’л’áн’ках гéтых, и ап’áц’ у л’ес. С’адз’éл’и мы ў л’асý да йýн’а м’éс’аца. Там мы стáл’и рабóтац’ у парц’изáнах. Тады́ п’ирайéхал’и с парц’изáнам’и ў дз’арéўн’у Гóрк’и. Там мы аджыл’и́ гот и фрóнта дажыдáл’и. З Гóрак нас выгнал’и аш у Бабы́н’ичы. Мы ус’ó с атрáдам ишл’и́. Ужо п’éршага мáйа на нас блакáда наступ’и́ла. Патóм нас парц’изáны схавáл’и у жал’éзный падз’éмный бýнк’ир. Там мы атс’éдз’ил’и да дванáццатага мáйа. Патóм прадáц’ал’ пры-в’óў н’éмцаў и паказáў нас. У дз’éв’иц’ часóў з рáн’ицы н’éмцы ўз’ал’и́с’а рыц’ наш бýнк’ир. П’иравóччык крычы́ц’: «Выл’и-зáйц’и». Мы байáл’ис’и, кап гранáты йаны́ н’и стáл’и к’идáц’, раз’б’и́л’ис’и на два кал’идóры. А н’éмцы аткры́л’и л’ук и стáл’и нас аттýл’ выган’áц’. Йаны́ з’дз’éлал’и у нас вóбыск. Брáл’и дз’éн’г’и, адз’éжу харóшуйу, у кагó былó сáла, паатн’áл’и, у нас часы́ забрáл’и, и пагнáл’и нас па л’асý. Вы́гнал’и нас на пóл’а и ап’áц’ вóбыск. Тут ужо с’н’имáл’и абуван’н’а. Атлу-чы́л’и ат нас мушчы́н. Нас былó там чалав’éк с’éмдз’ис’ат п’ац’ с раб’áтам’и. Патóм нас пагнáл’и. Н’éм’иц’ гóн’иц’ нас и гавóрыц’: «Вам áл’ес капýт». Прыгнáл’и нас на н’и́ву и паса-дз’и́л’и крушкóм и йашчé самá сказáла: «Бýдз’им садз’и́цца вы-шéй, кап нам п’éрвайа пýл’а пупáла». А Мáн’ку мы ужо был’и́ пац’ирáўшы тады́. Прышóў карáц’ил’ны атрáт, дапрас’и́л’и нас, йак мы пупáл’и ў той бýнк’ир. Прызнáцца вам, мы йим салгáл’и. Мы сказáл’и што парц’изáны нас гнáл’и за жал’éску, а мы ўц’áкал’и ад йих. Ал’е па гéтаму л’асý пан бамб’и́ў, с арý-дз’ий б’иў. Мы нашл’и́ гéтуйу йáмку и зал’éзл’и. Тады́ стары́ абн’áў Вáс’ку и сказáў: «Прашчáй, сынóк, пас’л’éдн’и рас мы с табóйу в’и́дз’имс’а», — и заплáкаў. А йа былá нармáл’найа, тамý што йа былá рас’ц’ирáўшыс’и. Мы атс’éдз’ил’и там сýтк’и. Н’и дáл’и нам н’и кáпл’и вады́. Ишóў дош. Йа атпаўзýс’а и вады́ з лýжыны хл’ибнý, тады́ мн’е л’ахчéй. А стары́ кáжыц’: «Дура ты, тут вадá н’а чы́стайа, а ты пи́еш». Патóм нас па-гнáл’и аш пат Пóл’шчу, м’éснас’ц’ Дóкшыцы, но нас вы́бракa-вал’и па дарóз’и: пак’и́нул’и стары́х, малы́х и кал’éк, а мала-дз’óш пагнáл’и ў лáг’ир. Мы атс’éдз’ил’и там тры н’адз’éл’и, а патóм удрáл’и у Гóрк’и ап’ац’, дз’е мы жыл’и́ дагéтул’. Там у нас быў астáўшыс’а хл’еп и картóшка. Аджыл’и́ мы там н’адз’éл’у, и

тут йа узна́ла, дз’е йес’ц’ майа́ до́чка. Йана́ была́ ў Л’е́п’ил’и ў бал’н’и́цы, ц’и́фам бал’е́ла. Пато́м йа к йей пашла́. Атту́да прышла́ и сама́ ц’и́фам забал’е́ла. Тады́ мы прыйе́хал’и на ро́дз’ину, йак на́шы прышл’и́. Дз’е́цца н’е́гдз’е было́ тут. Хл’еп на со́нцы сушы́л’и. С’ с’ил’сав’е́та жо́рны да́л’и нам. Ха́ты дз’е́лал’и с травы́, а пато́м ста́л’и капа́ц’ бу́нк’ иры пад во́с’ин’. С’имйа́ майа́ ап’а́ц’ забал’е́ла. Ва́с’ку ц’иф схвац’и́ў, Ма́н’ка так забал’е́ла, а мы с старыко́м так-с’ак капа́л’ис’а.

Гот пражыл’и́, ста́л’и ха́ту стро́йиц’. Праз два гады́ Ко́л’а прышо́ў. Йон быў чаты́ры с палав’и́най гады́ на фро́нц’и.

*Запісана ў 1950 г. Ю. Ф. Мацкевіч і М. В. Бірылам ад Е. Д. Сарокінай, 56 г.*

## Шчаперня (№ 61)

19(*) Мы жыл’и́ п’ерат вайно́й у Ма́лай Шчап’е́рн’и. Мн’е б’аз двух — во́с’имдз’ис’ат гадо́ў. Дз’ац’е́й нагадава́ў мно́га. Да вайны́ жыў харашо́. С’им’йа́ была́ бал’ша́йа, дз’е́ўк’и был’и́ — за́муш павыхо́дз’ил’и, адна́ ў стало́ўку пашла́, — жыв’е́ц’ харашо́, а като́райа ў за́паднай, та́йа дапамага́йиц’. У вайну́ нагар’ува́ўс’а.

Наш л’ес у парц’иза́ншчыну зва́л’и «Утара́йа Масква́».

Н’ихто́ н’а по́мн’иў, што п у нас был’и́ дз’и́к’ийа с’в’и́н’н’и — был’и́ рас пайав’и́ўшыс’а, йих запрашча́л’и б’иц’ — и лас’о́ў н’а было́, а ко́зы был’и́, ал’е ма́ла. З’в’ер з’в’ира́ ун’ичтажа́йиц’. Про́шлайе л’е́та мой хло́п’иц хадз’и́ў з наста́ўн’икам на с’в’ин’е́й — у л’асу́ заса́ду дз’е́лал’и, ал’е уб’и́ц’ н’и трапл’а́лас’а: н’ийа́к йих н’и заб’и́ц’.

Хло́п’иц на л’е́та у ва́рм’ийу по́йдз’иц’. Ц’ап’е́р, кал’и́ ўре́м’а, на ахо́ту хо́дз’иц’. Ц’иц’ерук’и́ па по́л’у и ра́пчык’и то́жа йос’ц’. Надайе́ла и́хнайе м’а́са: йак грыбы́. Сам йа то́л’к’и на ры́пку схажу́ дн’ом, — но́ччу пло́ха в’и́жу.

*Запісана ў 1950 г. студэнткай Белдзяржуніверсітэта Р. С. Жываткевіч ад Д. Л. Петрачэнкі, 78 г.*

## Кушлікі (№ 66)

20 Ма́мка прыго́н служы́ла, раска́звала. Ц’ап’е́р на рабо́ту хо́дз’уц’, йак ран’е́й у це́ркву, — так адз’е́нуцца. Дз’аре́ў-н’а ран’шы зва́лас’ Запру́дз’дз’е и им’е́н’н’е было́ Ку́шл’ик’и. Вот, ро́дный, сама́ жыла́ пло́ха. Йа ў бра́та была́. Пака за́муш зайшла́ — ус’о у лапц’о́х хадз’и́ла. Руба́шк’и ткал’и самадз’е́л’ныйи. Саха́м’и ара́л’и, у хл’еп бабо́вай м’ак’и́ны падм’е́с’уц’. Ха́ты был’и́ н’е на мас’ц’е́ *, а на з’амл’и́. Спа́л’и на палу́ *. Сама́ дз’е́ўкай на палу́ спа́ла, — ад п’е́чы аж да вакна́ пас’ц’е́л’им. Дз’е́ц’ам ма́ты с сало́мы кла́л’и. Во йак даўн’е́й ро́б’ил’и. Ку́рныйи ха́ты был’и́: зато́п’им, ха́ту рашчы́н’им — ды́мна, п’еч з гл’и́ны.

Нам пáну нáды бы́ла мнóга рóб'иц'. Кулуб'éл' с сабóй брá-л'и на пóл'е. Мáмка рыб'áтак брáла хадз'йла жац', марг'й * аджынáл'и. Пан кагó хóчыц' — пажéн'иц': вóз'м'иц' маладóга на старóй ажéн'иц' — н'ичóга н'е скáжыш... Ц'ап'éр и с'п'йчк'и, карас'йн, а даўнéй и н'и в'йдз'ил'и, и н'и знáл'и, што за с'в'ет. Начáм'и прáл'и на в'ирац'аны́, лучы́нку пал'йл'и: уткн'óм у св'éташ — калóдачка, а ў йайé кол — туды́ лучы́ну тóркал'и, вугáл'л'е л'ац'йц'.

*Запісана ў 1950 г. студэнтам Белдзяржуніверсітэта Б. С. Лапавым ад П. І. Варанецкай, 69 г.*

## Арлея (№ 94)

21 И тáйа майá дóчка зáмужам (за вайéннага вы́шадшы), здарóвайа, с'арéдн'ага рóсту. И мáл'цы был'й высóк'ийа, стрóй-ныйа, прыгóжыйа. Бóл'шайа на вайн'é здарóўйа пац'ирáла, засты́ла — ахв'ицéрам былá; ц'ап'éр инвал'йт втарóй грýпы, палучáйиц' п'éн'с'ийу. Кап ина згар'éла йéта вайнá.

Так'ййа дз'éц'и был'й, йета и душá в'ек рáдавалас'а. Млáт-шы у п'éрвым гадý паг'йп, а стáршы — на Йапóн'ийу насту-пáл'и — паг'йп. Хоц' бы з дваййх адз'йн астáўс'а, а то з дваййх н'и вóднага. Старéйшы быў жанáты, йамý былó тры́ццац' вóс'мы гот пашóў, а малóдшаму — тры́ццац' п'áты.

*Запісана ў 1950 г. студэнтам Мінскага педінстытута А. П. Груцо.*

## Зарачанне (№ 101)

22 Зас'éйуц' л'он, патóм нáда вы́рас'ц'иц' л'он. Вы́рв'им йагó, мал'éн'кам'и снапóчкам пув'áжым, вóз'м'им абрéжым з'óрны, патóм памóчым у вадý, патóм вы́ц'игн'им з вады́, рас'-с'ц'илáйим тóнк'им слóйим л'он — пал'ажы́ц' на пóж'ни, патóм пув'áжым у бал'шы́йи снапы́, тады́ сýшым и ў машы́н'и мн'óм, тады́ трéпл'им и на граб'ашóк смóргайим, патóм расц'áгвайим н'йтк'и на с'ц'éнку — йéта снуйóм назавáйицца крóсны, тады́ с'н'йм'им йих и на ставы́ наўйóм, к'йн'им у н'ит и заччóм — и палучáйицца палатнó, тады́ вы́б'ил'им.

Ставы́ пастáв'им, тады́ н'ит пав'éшайим на пóлк'и, тады́ нáб'ил'ицы, б'óрда, ук'йн'им у кáждуйу трыс'ц'йну па дз'в'е н'йтачк'и, зав'áжым и начынáйим ткац'.

*Запісана ў 1952 г. М. В. Бірылам і студэнтам Мінскага педінстытута М. А. Купрыянчыкам ад Я. Д. Казловай, 59 г.*

## МАЛЬЧЫК З ПАЛЬЧЫК

*(Казка)*

23 Жыў дз'ет и бáба. Дз'ет гавóрыц': «Йа пайéду у пóл'а, а ты, бáба, дз'éлай штó-н'ибуц' дóма». Дз'ет пайéхаў у пóл'а, а бáба крышы́ла капýсту и атрéзала м'éдз'иный пáл'иц, тадá йинá йагó ув'арц'éла у трáпачку и палажы́ла на лáўку.

Прыхо́дз'иц' дз'ет, спра́шавайиц': «Хто гета пла́чыц'?» Ба́ба гаво́рыц', што у нас йос' ма́л'чык с па́л'чык.

Тада́ дз'ет гаво́рыц': «Бу́дз'им гадава́ц' за сына, бо у нас н'ет дз'ац'е́й».

Дз'ет пайе́хаў на по́л'а ап'а́ц' рабо́тац', ба́ба дала́ ма́л'чыку йес' зан'е́с' на по́л'а дз'е́ду. Идз'е́ц' ма́л'чык, пас'в'и́ставайиц', с травы́ н'и в'ида́ц'.

— Дз'е́ду, дз'е ты йос'? — н'асу́ таб'е́ йе́с'ц'и.

— А хто ты?

— Йа ма́л'чык с па́л'чык. Ну, дз'ет, пас'адз'и́, а йа бу́ду рабо́тац'. А хто бу́дз'иц' купл'а́ц' м'ан'е́, то ты прадава́й.

Зал'е́с ма́л'чык с па́л'чык кан'у́ ў ву́ха и аре́ц'. Идз'е́ц' куп'е́ц.

— Што, дз'ет, с'адз'и́ш, а кон' то сам аре́ц'?

— Да, у м'ан'е́ йос'ц' ма́л'чык с па́л'чык, што мо́жыц' рабо́тац'.

— А дз'е ш йон, што н'а в'и́дна?

— У ву́х'и с'адз'и́ц'.

— Прада́й мн'е кын'а́ з ма́л'чыкам-па́л'чыкам.

— А што дадз'и́ц'и?

— Ско́л'ка?

— П'ац' ты́с'ич рубл'е́й.

Куп'е́ц уз'аў ма́л'чыка-па́л'чыка, пасадз'и́ў у карма́н, с'еў на кын'а́ и пайе́хаў. Ма́л'чык с па́л'чык уц'о́к с карма́на вон и идз'е́ц' даро́гай — наўстре́чу воўк б'аг'и́ц'.

— Йа ц'иб'е́ з'йем.

— Йеш.

Воўк праглац'и́ў ма́л'чыка. Б'аг'и́ц' воўк и в'и́дз'иц' бал'ша́йа ста́да ав'е́ц.— Вот йа з'йе́м бара́на. Ма́л'чык с па́л'чык йак закрычы́ц' у бру́х'и — воўк так и пуб'ажы́ц' уц'ика́ц'.

Ма́л'чык гаво́рыц' ваўку́: «В'аз'и́ м'ин'е́ дамо́ў». Воўк стаў и паду́маў: на́да атв'ас'ц'и́, а то йа н'и з'йем н'и аднаго́ бара́на. Прыб'ига́йиц' воўк дамо́ў. Стары́к са стару́хай заб'и́л'и вуўка́ — ма́л'чык с па́л'чык вы́л'ис вон. Дз'ет ба́б'и гаво́рыц': «Ну и дажыл'и́ ш мы сынка́, што н'идз'е́ н'и прапада́йиц'». И гудува́л'и то́га сынка́.

*Запісана ў 1952 г. М. В. Бірылам і студэнтам Мінскага пед-інстытута М. А. Купрыянчыкам ад Е. Т. Майсеевай, 18 г.*

## Сасно (№ 98)

24 А раска́зваў дз'е́душка йашчо́ пры прыго́ну было́.

Вот карто́шку капа́йуц' — дак у нас хуц' п'ац' пудо́ў закапа́йацца, дык [толькі] крыц'ику́йуц', прадупрадз'а́ц', — а там во́йта быў. У йаго́ пл'ец' рам'е́ннайа спл'е́ц'ена, и йон с пл'е́ц'ц'у стайиц'. И кал'и́ карто́шына л'ажы́ц' за ва́м'и, дык з ў́с'айе́ йаго́най с'и́лы б'иў, зза́ду падхадз'и́ў и б'иў: кал'и́ карто́шына л'ажы́ц' — пл'ец', дз'е́с'ац' карто́шын — дз'е́с'ац' пл'о́так.

Адну́ жанчы́ну за тры карчы́ карто́шк'и так б'иў, што ста́л'и ко́с'ц'и в'ида́ц'. Це́лых паўго́да л'ажа́ла — а вы́жыла, падна-с'и́л'и йей што было́ йес', ус'а́ пас'е́чана была́.

Н'евады́ в'иза́л'и рука́м. У вас'имна́ццац' чалав'е́к в'иза́ла, адз'и́н в'иза́ў шы́пка, удвайно́ йак друг'и́йа — йон з'в'а́жа сто́л'к'и, а тот про́ц'иў йаго́ напалав'и́на. Кал'и́ хто ат ге́тага атста́н'иц' — пан ладо́н'у аршы́нам жал'е́зным б'иў.

А пато́м йаго́, като́ры шы́пка в'иза́ў, зача́л'и прас'и́ц' ус'е́ — пан прышо́ў, а ў йаго́ — ро́ўна з ус'и́м'и, — ус'аго́ с'с'ек пл'е́ц'-ц'у, ус'у́ ко́жу з'н'аў, так што н'и мох на м'е́с'ц'и с'адз'е́ц'.

25 Два аз'ары́ йос' — Бал'шы́ С'и́н'ец, ат йаго́ к'ило́м'етра паўтара́ — Ма́лы С'и́н'ец. Дз'е Бал'шы́ С'и́н'ец, там го́ры н'и-схадз'и́мыйа, бал'шы́йа. Воўк у гаре́ вы́капайиц' нару́ и жы-в'е́ц' у наре́ тей... М'адз'в'е́ц' з'дз'е́лайа саб'е́ м'арло́х, бал'шы́ м'архло́х и выво́дз'иц' там дз'ац'е́й.

Там аблажы́ўшы л'е́сам. У л'асу́ адз'и́н гот йак йе́та травы́, так грыбо́ў было́ — адны́ барв'ик'и́. На майе́й жы́з'н'и то́л'к'и раз было́ — ско́л'к'и ўжыў йа гадо́ў, дык з грыба́м тако́йа адз'и́н год было́: па ты́с'ачы на́б'ира́л'и и дз'ен' н'и бра́л'и.

Ма́лы С'и́н'чык глыбаты́ бу́дз'а — йак б'аро́ска та́йа. Кл'уч у йим йос', с таго́ кл'уча́ ры́ба идз'е́ц' фанта́нам у на́ша аз'аро́... Акун'е́чык — ры́ба с'и́н'айа, крас'и́вайа — и аз'аро́ тагды́ ц'в'иц'и́ц', йак таба́кай ц'и м'ак'и́най апсы́пана, пайе́та-му «С'и́н'ец» называ́йуц'.

*Запісана ў 1954 г. студэнтам Белдзяржуніверсітэта А. В. Мажэйкам ад П. А. Спірыдонава, 75 г.*

## Вішнева (№ 73)

### ВЯСЕЛЬНАЯ ПЕСНЯ

26 Ужо со́н'ейко н'иран'у́хан'ка захо́дз'иц',
Мълада́ Же́н'ичка свайу́ маму́л'ку траво́дз'иц',
Право́дз'иц' и шчыру́хан'ка гаво́рыц':
— Прыхо́дз', прыхадз'и́, ро́дна мату́л'ка,
Ужо́ ка мн'е даро́жан'ка прам'е́н'ка,
Даро́жан'ка брус'н'и́чн'ичкам заро́сшы,
Варо́ц'ик'и кал'и́н'инкай абв'и́с'л'и.
Йа й даро́жан'ку ат брус'н'и́чн'ичку пръпал'у́,
Варо́ц'ик'и ат кал'и́н'инк'и абламл'у́.

*Запісана ў 1950 г. студэнткай Белдзяржуніверсітэта Р. С. Мясаедавай ад М. Д. Стрэльчанкі, 63 г.*

### ВЯСЕЛЬНАЯ ПЕСНЯ

27 Адда́ў м'ан'е́ та́тка ды за́муш дал'о́ка,
Прыказа́ў м'не та́тка с'ем гот н'и быва́ц'и.
А йа, мълада́йа, го́ду н'и с'ц'арп'е́ла,

Го́ду н'и с'ц'арп'е́л'а, — у го́с'ц'и захац'е́ла...
Йишла́ йа л'иса́м'и, йишла́ йа бара́м'и,
Выхаджу́ йа йиз бо́ру, на та́ткъва по́л'а,
В'и́джу — мой тату́л'ка пъ садо́чку хо́дз'иц',
Пъ садо́чку хо́дз'иц', б'е́лы ру́чк'и ло́м'иц',
Б'е́лы ру́чк'и ло́м'иц', варо́тцы атчын'а́йиц'
И ап до́л'у пъта́йиц':
— Дачу́шка, гару́шка, ц'и ўдала́с'а до́л'а?
— Тату́л'ка мой ми́л'ый, н'и ўдала́с'а до́л'а.
Шалко́въйа адз'е́жа у скры́н'и патл'е́ла,
А йа, мълада́йа, за л'у́л'кай с'адз'е́ла.

*Запісана ў 1950 г. студэнткай Белдзяржуніверсітэта Я. І. Уладыка ад П. І. Забароўскай, 50 г.*

### Гараўцы (№ 72)

КУПАЛЛЕ

28 З'ал'о́н'ин'к'и в'инагра́т
Уда́ўс'а нам на пагл'а́т.
З'ал'о́н'ин'к'и в'инагра́т,
А дз'е ш ц'аб'е́ садз'и́ц'и?
Ц'и у гаро́дз'и па л'ас'е́ *,
Ц'и ў капу́снай баразн'е́?
— Вы, дз'е́вачк'и, с'астры́цы,
Дз'е хо́чац'и — садз'и́ц'и,
То́л'к'и ш м'ан'е́ пал'и́ц'и.
Н'и пал'ива́йц'и вадз'и́цай,
А пал'ива́йц'а рас'и́цай:
Ат вадз'и́цы йа з'в'а́ну,
Ат рас'и́цы уста́ну.

*Запісана ў 1950 г. студэнткай Белдзяржуніверсітэта В. Б. Хацкевіч ад В. Ц. Скараход, 52 г.*

## ШУМІЛІНСКІ РАЁН

### Каз'яны (№ 99)

29 Йак йа была́ ма́лъйа — па́с'ц'ила йа ў па́на гус'е́й, а была́ йашчо́ у па́на пасту́шка, во́ было́ йей го́р'а — бо́л'шы чым мн'е. Йес' нам вар'и́л'и адз'дз'е́л'на ат с'иб'е́... Пр'иго́н'иц', бу-ва́ла, йина́ с по́л'а и зра́зу йдз'ец' с'в'ин'н'а́м з'б'ира́ц', каро́ў дайи́ц' — так и хо́дз'иц' часо́ў да дз'в'ина́ццац'и, а до́с'в'ита бу́дз'уц' мълац'и́ц' на ток цъпа́м. Змълац'и́ўшы, до́йиц' каро́ў, а тады́ го́н'иц' у по́л'а, и н'айе́ўшы. А йес' дайу́ц' то́л'к'и тады́, йак пр'иго́н'иц' карм'и́ц', каро́ў дайи́ц' и ус'а́куйу другу́йу ра-бо́ту пр'иб'ира́ц'. Ией н'и ра́зу н'и дъва́л'и аддыха́ц' — ус'о́

рабóтъла, а йéла два разы́ у дз'ен'. Чáста мы, бувáла, плáкъл'и... Пъц'ир'áла йинá здарóўйа и пам'óрла йшчы саўс'и́м мълъдáйа.

*Запісана ў 1951 г. студэнткай Віцебскага настаўніцкага інстытута В. П. Вараб'ёвай.*

## Ласвіцкія (№ 105)

30(*) Гл'ажу́ йа на йих и ду́мъйу: н'ичóга саб'é жыву́ц' л'у́дз'и, патрóху, а што пр'ишлóс'а п'иражы́ц', дык аш стрáшна ўспóмн'иц'. Пр'ийéхъла йиз въкуáцыйи ш чытыр'óм р'иб'áтъм. М'ин'é н'éмцы был'и́ ў ц'ир'му́ зъбрáл'и, дóма хл'éба н'и' стáлóс'а. Пр'ийéхъла йа ў С'ирóц'ина. Бумáг'и мн'е был'и́ дáл'и, што ў б'éжынцъх. И бу́дудз' гъвар'и́ц': «Н'а йедз' дамóў, у вас там м'йны ду́жа». А йа пайéхала. Што з' р'иб'áтъм былá, дык мн'е кън'á дáл'и дамóў дайéхъц'. А тут н'ичóга н'а 'сталóс'а ад дз'ир'éўн'и, ус'ó пупáл'ьна, ус'ó пупаб'и́та — н'и ўзнац'. Н'а 'днéй душы́ н'имá, а тут ы ноч ужó. А́хц'и! — ду́мъйу, бу́ду искáц', дз'е нучувáц'. Туд з'имл'áнъчка былá л'и дарóг'и, с'л'ет там быў ат машы́ны, пашл'и́ ў ту́йу з'имл'áнъчку.

Атрас'éла с'éна, ну ал'и н'и так, што мóкръйа, йаг' былó, а тóйа ў кустáх сырóйа, таму́ нáда мнóга сóхнуц'.

Н'а л'éхчый? Л'éхчый. Вот ы В'éрка пр'иб'éгла. Спъсáйиица тóл'к'и тым кáпл'ьм. Бы́тцъм трóшк'и дз'éйствуйиц'. Су-н'и́м'ьтца — и пайду́ йагó вы́рву, ну йагó к чóрту йéтъд зуп. Йашчé нъмачу́ пъгадз'и́ўшы. Зуп н'и шчытáйитца за бол', ал'и йон бал'и́ц' лóўка. Ку́ры ц'ир'éб'утца — йéта на дош. Йéта зуп — кос'. Ц'ез', бувáла, гавóр'иц': «Што ты выду́мывъйиш, рáз'в'и мóжыц' коз' балéц'? Н'а хóчуц' рабóтъц' — и выду́-мывъйуц'».

Пабóл'шыў дош. Н'агóш патóды н'а бу́дз'ьц'? тады́ш мы паг'и́бн'им — ус'ó ш на пóл'и: и с'éна, и хл'еп...

Бул'бóўн'ик н'и жáла с'óл'ьта. А харóшый кóръм. Йагó сажн'éш, тады́ абар'и́ц' — карóвы хърашó йаду́ц'. Ус'и́ йагó йаду́ц': и карóвы й ав'éчк'и.

Боп с'и́л'на хърашó нъ гарóдз'и садз'и́ц'. Боп с'в'ин'н'áм хърашó. А пъсл'á йагó тады́ с'и́л'на бу́л'ба харóшыйа. Йон з'áмл'у с'и́л'на рыхл'и́ц'. Мы дык прóбувъл'и л'éтъс' садз'и́дз' боп ум'éс'ц'и з бу́л'бъй. Хърашó рас'ц'éц'. Кар'éн' во так'éй, а л'и йагó з'имл'á рыхлъйа. Сажн'éш боп, тады́ на 'стрóўк'и сушы́ц'. Астрóўк'и * нъ гарóх сукувáц'ьн'к'ийи, а на боп во так во дз'éлъйуц'.

### ПРЫМАУКІ І ПРЫКАЗКІ

31 На м'éл'н'ицу идз'и́ нъ час, а хл'éба б'ар'и́ нъ н'идз'éл'у. Спус'ц'á л'éта, ў мал'и́ны н'а хóдз'уц'. П'áц'ира з лóшкъй, адз'и́н с цóшкъй [сошкай]. З'имá рóб'иц' на л'éта, а л'éта нъ з'иму́. Рас'ц'и́ на л'ез гл'éдз'а. Адз'и́н ы ў кáшы н'а спóрък.

*Запісана ў 1954 г. С. А. Грыгор'евым ад Е. А. Дзятлавай.*

## ГАРАДОЦКІ РАЁН

### Баркова (№ 126)

32(*) В'ичэ́р'иц' н'е дайе́ш. Ла́пу на сто́л пъкла́ў. Ц'и хо́дз'иц'а вы у мал'и́ны? Там н'и аднаго́ ку́с'ц'ика н'има́. На́дъ з'б'е́гъц'. Што вы тарчыц'о́ у варо́тъх, йидз'и́ц'а, бац'в'и́н'а ул'ил'и́. Ал'и, йе́та пра́ўда. Ты там, ма́ма, жбано́к схува́й. На́даб'и прыв'е́с. Што ты з'иму́ ва́л'инк'и нас'и́ла. Мы уже н'и йадз'о́м. З'иму́ бу́дз'иц' з'имува́ц'. Н'иха́й йина́ дайе́с'. Йа з' йим н'и пайду́. Был'и́ нълажы́л'и г'ипс, рас л'аче́н'н'а н'има́. Тро́ху быў пъпра́в'аўс'а. Ба́бы ўс'е́ разышл'ис'а, хыц' ба аткры́ў. Дъва́йц'е йа вас з'в'аду́! Пры́б'ира́ц' съма́ прыхадз'и́. С'л'апе́й, др'е́нна дажыва́ц' в'ек ста́раму. Пашо́ў з ма́лых гот па л'удз'о́х. Гарyво́ў, с'и́лку вы́мътъў сваўу́. Мъладе́йа ба́ц'ку н'и слу́хайуц'. А йак бу́дз'иц' хъз'а́йин. Ц'ип'е́р са́мый пры́пар *, с'енако́с. Мы был'и́ ў йаго́ атра́дз'и. Па два — тр'и дн'и н'айе́ўшы. Тады́ йадз'о́м. Хл'еп йак'е́й быў. Бу́дз'им по́мниц'. У йа́гады н'а йдз'ец'? Вы адны́ прийе́хъўшы? Тра́хтъры хо́дз'уц'. Нъ йак'е́й з'емл'е́ с'е́йуц'. Крайи́ абго́н'уц', про́йдз'иц' даро́шкъй, а с'аро́тк'и пусты́йи. Друг'е́йа су́тк'и йе́хъц'. Забы́ўс'а, у йак'и́м го́дз'е. Бал'ше́й ка́м'ен'— л'убута́ гл'идз'е́ц'. Кар'е́н'н'а так'и́йи. Ус'о́ кам'е́н'а пъпрыбра́на.

*Запісана ў 1956 г. студэнтам Мінскага педінстытута А. А. Жукам.*

### Малае Лосвіда

33(*) Гаро́т плах'е́й. Пам'о́т * тра́ктърам пъдн'ал'и́, а н'и ўжыр'и́л'и *. Тады́ гаро́т харо́ш, кал'и́ хъз'а́йин з'амл'у́ адо́л'ъйиц', а кал'и́ з'имл'а́ хъз'а́йина, то пло́ха. Нам ъзр'ишано́ праўл'е́н'ьйим па тр'и вазы́ наво́зу ис калхо́за ўз'ац'.

Н'и 'ннаго́ до́ма н'и астало́с'а. А ц'ип'е́р' ус'о́ ж дък'и у свайи́м до́м'и жыву́. Дърмаво́га л'е́су дъста́ла. Вы́р'ъзъл'и л'ес свайи́м с'и́лъм. А чым сто́л'у стал'и́ц', ду́мъйу. Ой! Кап йе́тъд дом ды ў го́рът, дык йон ба ц'в'иц'е́ў.

У Смало́ўк'и был'и́, паку́л' ужо́ дамо́й пус'ц'и́л'и. Найе́з'дз'ъл'ис'и па вакуа́цыйи. Дз'е йика́йа лайн'и́на * была́, прайе́л'и. У м'ин'е́ дз'аўчы́на была́ атпра́ўл'ьна ў В'иц'ипск, и ў дуўга́х была́. Ц'ип'е́р'ка ус'о́ п'ир'ижыла́. То́л'к'и п анне́й вайны́ н'и було́. Йа ўжо таг' байу́с'у йийе́, што н'и зна́йу.

Та́мъц'ка ц'иснува́та, садз'и́ц'ис'а тут.

С ума́ сыйшо́ў п'ату́х. Н'и ка́ждый так'е́й. Адна́ же́н'шчына зъйшла́ за в'и́лкъм, а йон прых нъ гълаву́. А йна гаво́р'иц': «Атс'ак'и́ йаму́ гълаву́». Ну, атс'е́дж жа н'а до́ўга, н'а тр'и дн'и.

Вы н'и кладз'и́ц'а н'ичо́га нъ вакн'е́, а то ко́шка дурна́йа: ц'и майо́, ц'и ва́ша стайи́ц', н'и ўва́жыц'. Хац'е́ла йийе́ зан'е́с'-

За дз'аразў пут со́л'и уз'а́л'и, рвуц' катк'и́, а пас'л'а́ су́шац', йак пасо́хн'а, дык ваз'м'и́с'а, и йана́ сы́пл'еццa, тако́йа с'л'из'ин'кайа.

Каро́ўку сам пас'е́, у пасту́х н'и пуска́йам.

*Запісана ў 1948 г. М. В. Бірылам ад В. А. Карачун.*

## МІНСКІ РАЁН

### Лысавічы (№ 219)

345(*) Гадо́ў дз'е́с'ац' бу́дз'а, йак йа нагу́ была́ спо́рц'ила. Пашл'и́ дз'е́ўк'и да ре́чк'и. Ко́н'и па́с'в'иў но́чы. Като́ры дз'ен' у ву́ха ко́л'а. Вайно́й мы хадз'и́л'и тры гады́ па л'асо́х. По́йдз'иш па ба́ц'ку ц'и н'е? Мы с'адз'е́л'и на до́сца. Йана́ там бу́дз'а рабо́тац'. Л'у́дз'и с'идз'а́ц'. Йаны́ с'в'и́н'н'а ко́рм'ац', ко́рм'ац' кабаны́. Куды́ ц'аб'е́ чорт го́н'а! У бруз'е́нтавых м'ашко́х во́з'ац' ма́сла. Ску́пл'ивайац' ма́сла.

Пайе́хала да сы́на у Б'аго́м'ил'. Вы́сып'а сы́пка така́йа с'в'арбу́чайа. Вы́скачыў у адне́й сако́лацца. Йон быў трахтары́стам. К нам чатыро́х студе́нтаў паста́в'ил'и. Граду́ агурко́ў был'и́ пасадз'и́л'и.

*Запісана ў 1957 г. Ю. Ф. Мацкевіч ад Е. Швед, 80 г.*

### Аксакаўшчына (№ 464)

346(*) Вы кукуру́зу идз'иц'о́ пало́ц'? Зра́зу харашо́ ишла́. Йей на́да кре́пка жы́рныйа м'е́сцы. Зра́зу была́ до́брайа, а ц'ап'е́р жо́ўкн'иц'. Йон быў гарман'и́ст, игро́ў. Так крас'и́ва прып'аво́ў. Паспо́ў у с'в'и́рн'е, прышо́ў с каз'бы́. Ма́ма, на́тта мн'е но́г'и бал'а́ц'. Мой хло́п'иц хваре́ў нага́мы и рука́мы. На́тта л'у́б'иц' с ко́н'мы хадз'и́ц'. Нас было́ чатыро́х с'ас'ц'о́р: адна́ на Украйи́н'а, дз'в'е на С'иб'и́ры. Прыйажджа́ла с' С'иб'и́ры. Йана́ за друго́га. У нас у го́радз'а. Двана́ццац' коп [ільну] абаб'и́ла.

*Запісана ў 1951 г. студэнтамі Белдзяржуніверсітэта Л. Красько, Н. Мажэйка і С. Доўгай.*

### Строчыцы

347 Л'е́там был'и́ мы адз'и́н раз у М'и́нску. Идз'о́м тратава́рам, дз'аўча́та нап'е́радз'а, а мы крыху́ зза́ду атста́л'и. Гл'аджу́ — адна́ жанчы́на сыпну́ла бума́шк'и. Идз'е́ дал'е́й и раск'и́давайе ў адну́ старану́, ў другу́йу. Л'у́дз'и иду́ц', падн'има́йуц'. Хто гра́матны, той чыта́йе. И йа падн'о́ў адну́. Жанчы́на пал'адз'е́ла, што йа схава́ў у карма́н, и дала́ мн'е йишче́ тры бума́шк'и. На, ка́жа, у дз'аре́ўн'у н'ас'и́, н'аха́й чыта́йуц'. Ну, ду́майу, прыду́ дадо́му — прачыта́йем, што там нап'и́сана, бо йа н'игра́матны быў.

Сабра́л'ис'а ге́та в'е́чарам, и Буда́й То́дар чыта́йе. Пачыта́л'и мы пракламацыйу назо́ўтра йишче́ ў друг'и́м с'ал'е́ й к'и́нул'и рабо́ту ў падра́ччыка на м'е́л'н'ицы.

Н'е прашло́ й гадз'и́ны, як б'ажы́ц' падра́ччык.

— Чаму́ к'и́нул'и рабо́ту?! — крычы́ц'.

— Па п'ац'дз'ес'а́т кап'е́йек у дз'ен' мы раб'и́ц' н'а бу́дз'ем, плац'и́ц'е па рубл'у́, — атка́звайем йаму́.

Прамарнава́л'и и падра́ччыка да часо́ў дз'ес'ац'и́ й разышл'и́с'а. А нас чатыро́х чалав'е́к пашл'и́ к жн'е́йам, што ў на́шай пам'е́шчыцы жа́л'и жы́та. Падышл'и́ й пыта́йем:

—Па ко́л'к'и вам пла́ц'ац'?

— Па два́ццац' кап'е́йек,— атка́звайуц' жн'е́йи.

— К'ида́йц'е рабо́ту, па п'ац'дз'ес'а́т кап'е́йек пав'и́нны плац'и́ц'. Вас абма́нвайуц', кроў на́шу пи́йуц'.

К'и́нул'и рабо́ту жн'е́йи ў гарадз'ишча́нскага пам'е́шчыка й разышл'и́с'а.

Назо́ўтра к в'е́чару пры́стаў са стра́жн'икам у ха́ту. Йа с'адз'е́ў л'а вакна́, аб'е́даў.

— Ты чаго́ наро́т бунту́йеш, рабо́чых разган'а́йеш? — крычы́ц' пры́стаў.

— Аб'е́дац' хачу́ ко́жны дз'ен',— см'е́ла атка́звайу пры́ставу й стра́жн'ику.

*Запісана ў 1951 г. П. М. Гапановічам ад В. А. Будай, 71 г.*

## УЖО ВЕЧАР, НЕ РАНА

*(Старая жнійная песня)*

348 Ужо́ в'е́чар, н'и ра́на,
Хало́днайа раса́ па́ла,
Крын'и́чнайа вада́ ста́ла.
Стары́м жанка́м но́шк'и з'а́бнуц',
А ў малады́х сынк'и́ пла́чуц'.
Но́шк'и з'а́бнуц' — тре́ба гре́ц'и,
Сынк'и́ пла́чуц' — тре́ба ўн'а́ц'и.

*Запісана ў 1951 г. П. М. Гапановічам ад Т. А. Будай, 66 г.*

## Астравы

349 У том канцы́ с'ала́ ў нас жал'е́зны пуц' прахо́дз'иц'. Ц'ип'е́р л'а пуц'и́ зноў вы́рас л'ес, а ў вайну́ н'е́мцы л'ес круго́м вырубал'и, хво́йа на хво́йу зва́л'ивал'и, кап парц'иза́ны н'и магл'и́ падыйсц'и́ да до́таў.

Аднаго́ ра́зу капа́л'и мы карто́шку вот тако́й паро́й. Нас шас'ц'о́ра бап было́. Гл'адз'и́м — чалав'е́к да пуц'и́ патпо́ўзайе, праб'ира́йецца куста́м'и. Чу́йем и по́йест груко́ча. Ус'о́ бл'ижэ́й и бл'ижэ́й падыхо́дз'иц', а чалав'е́к, што праб'иро́ўс'а да пуц'и́, ужо́ на Астравы́ б'ажы́ц'.

Ра́птам — узры́ў!!! Н'е́мцы йик падн'а́л'и страл'бу́, так з' з'амл'и́ н'има́ йак падн'а́цца. Ал'е ш чалав'е́к йак упа́ў у с'ало́, то дз'е ш ты йаго́ зло́в'иш: парц'иза́ны ш свайе́ л'у́дз'и.

И тут жа — кара́ц'ел'и. Найе́хала их, н'е́дз'е пав'арну́цца. Акружы́л'и ў́с'о́ с'ало́.

У сус'е́тк'и по́ўна ха́та н'е́мцаў. Гл'адз'и́м — вазо́ны праз во́кны павык'ида́л'и и пачал'и́ ў́с'и́х л'удз'е́й зган'а́ц' у ха́ту. Так сп'о́рл'и, што пав'арну́цца н'е́дз'е. Дз'е́ц'и пла́чуц', наро́т задыха́йецца. П'е́ршым'и пачал'и́ дахо́дз'иц' дз'е́ц'и. Ужо́ и ха́ту аблажы́л'и сало́май и хац'е́л'и патпал'и́ц' ра́зам з' л'удз'-м'и́, а тут йак пачало́ рва́цца на жал'е́знай даро́з'е. Йик падн'ала́с'а страл'ба́, так кара́ц'ел'и хто куды́. А л'у́дз'и праз во́кны да ў л'ес.

*Запісана ў 1951 г. П. М. Гапановічам ад Н. Р. Камлюк, 41 г.*

## Глебкавічы (№ 465)

350 Па-мо́йму так: йак раб'и́ц', дак раб'и́ц', шчы́ра. Ц'ап'е́р у м'ан'е́ здаро́ўйа н'има́. Йак валн'е́н'н'а йако́йа, то чу́йу, што се́рца астана́ўл'івайецца. Сын п'и́ша, кап йа на рабо́ту н'е хадз'и́ла. Ал'е дз'е ш ты б'ес рабо́ты бу́дз'еш. Хай йа нажну́ п'ац'-дз'ес'а́т снапо́ў, то й до́бра. У нас ц'ап'е́р ара́л'и тра́ктарам, а жы́та ц'о́мнайе да харо́шайе. Йа иду́ и л'убу́йус'а, а трактары́ст пыта́йе, чаго́, ц'о́тка, л'убу́йес'с'а. А йа кажу́: «Во кап у нас ус'о́ тако́йе жы́та было́». З'амл'а́ там до́брайа. Йак пас'е́йуц' л'о́ну, дак, йак мо́ра. Вот йа хадз'и́ла у Заре́чча, вот там жы́та! Стайи́ц' ро́ўн'ен'кайе, йак с'ц'ана́. Нашто́ таб'е́ што! Йа Абрацо́ву каза́ла: «Н'а с'ей ты там бурак'и́». А йак узышл'и́ ты́йа бурак'и́, дык и пало́ц' н'ама́ чаго́. А вот што-то капу́ста, йак со́нца рып'аче́, дак и зав'а́н'а. А аднайе́йу раса́дай са́джана. Буракоў у м'ан'е́ мно́га, а раса́ды н'ама́шака. Мо́ркаў вы́сатк'и пав'е́с'ила у с'е́нцах, дак в'ерабйи́ навал'и́л'ис'а. И вот ты скажы́, йак то́л'к'и прарас'ц'е́ раса́да, дак напада́йе машката́.

*Запісана ў 1950 г. П. М. Гапановічам ад П. І. Каўтун, 50 г.*

351 Гаре́лк'и даўн'е́й н'е купл'а́л'и, а гна́л'и. Пры́дз'а жан'и́х у сваты́. Спача́тку идз'е́ выгл'ада́ц' у ха́ту з гаре́лкай. Вы́пйуц' гаре́лку. Ге́та ўжо ма́лы бары́ш. Пато́м б'аре́ б'икла́шку гаре́лк'и. Йана́ радн'у́ ззыва́йе, а йон в'аз'е́ к маладу́с'е кумп'а́к, заку́ску. Йана́ ззыва́йе радн'у́ на йаго́ заку́ску. А тады́ ўжо н'адз'е́л'и ц'ерас тры йе́дз'е к маладо́й. В'аз'е́ с сабо́й гаре́лку. Пато́м йе́дуц' в'анча́цца. Пав'анча́йуцца, а тады́ гул'а́йуц' ноч. А наза́ўтра да́рац' маладу́йу. Надз'айу́ц' че́пак и са́дз'ац' на дз'ажу́. Тады́ йе́дуц' к маладо́му. Там йана́ з во́за зла́з'иц', и йайе́ зноў са́дз'ац' на дз'ажу́. Саб'ира́йецца ус'е́ с'ало́. Гу-

л'айуц' цéлу ноч, а назáўтра йашчé зноў гул'áйуц'. Гул'áйуц', пакá н'е вы́пйуц' ус'ý гарéлку. А ц'ерас м'éс'ац пас'л'á свáдз'-бы зноў з'б'ирáйецца радн'á. Гéта называ́йецца п'арéз'в'ины *.

*Запісана ў 1950 г. П. М. Гапановічам ад А. П. Рачынскай, 56 г.*

## Забалоцце (№ 471)

352(*) Тут сáду йак'и́х сто п'ац'дз'ес'áт дз'арéўцаў пасадз'и́л'и. Быў вы́ган, дак йагó узарáл'и ды пасадз'и́л'и. Ал'е пускá-л'и кóн'и пáс'ц'иц', дык паламáл'и. Йа ў запрóшлы гот йéз'дз'иў у Лóшыцу, там рóс'ц'ац' сáжанцы. С'éйанцаў мал'éн'-к'их ты́с'ач шес'. Йа кажý, кап йак нам уз'áц' сáжанцаў. Йак йа там, уз'óў, ц'и куп'и́ў — майá спрáва. Да йих на прóшлы гот акул'и́раваў, а ц'ап'éр ужó им па м'éтру. А сат дл'а калхóзу сáмы л'éпшы дахóт. С'óл'атн'айа л'éта йа тóжа пал'ивáў сá-жанцы.

Вот йа знáйу, у гадý сóрак шастóм у Смал'ав'и́чах брáл'и па шес' рубл'éй, а ў Лóшыцы брáл'и па п'атнáццац'.

У нас тут парц'изáны и дн'ом и нóччу был'и́. Йаны́ пачал'и́ пайаўл'áцца с сóрак другóга гóда. Бывáйе, у с'ал'é парц'и-зáны и н'éмцы: адны́ з аднагó канцá, а друг'и́йа з другóга. З нáшайе дз'арéўн'и мнóга парц'изáнаў былó. Йа сам йашчé у ф'и́нскуйу вайнý инвал'и́дам стаў. Тады́ марóзы был'и́ да п'ац'идз'ес'ац'и́ грáдусаў.

*Запісана ў 1950 г. П. М. Гапановічам ад М. С. Кірыльчыка, 45 г.*

353(*) Вот и́ншы рас куры́ц' и урéдна, ал'е ус'é кýрац'. И н'а тóл'к'и у Рас'и́йи, ал'е ва ус'и́х гасудáрствах. Наш урáч казóў, вот йак брóс'иў куры́ц', так растаўс'ц'éў.

Вот кладб'и́шчы, нáшы и бац'к'и́ н'а пóмн'ац' йих. Кáмн'аў былó мнóга. Вот гéты пáм'атн'ик, йак прыйаждж́áл'и абсл'é-давац' балóты, и йаны́ н'е прачытáл'и пóдп'ис. Вот йа пóмн'у йашчé турéцкуйу вайнý. Старéйшыйа пóмн'ац'. Йа пажы́ў ужó. Вот с'ейчáс тóл'к'и прыйéхаў з бал'н'и́цы, стáв'ил'и на ранг'éн.

*Запісана ў 1950 г. П. М. Гапановічам ад З. Н. Мазаніка, 78 г.*

## Каралёў Стан

354 Ц'ип'éр бывáйе ахóтн'ик прахóдз'е й дз'ен' и два и н'и забйéц' н'и зáйца, н'и злóв'е ры́бы. Л'асы́ павыс'икáл'и, рéчк'и абм'ал'éл'и. Дз'е-н'идз'é тóл'ка стáда дз'икóў прóйдз'е. А ра-н'éй тут сасн'áк, йик мóра стайáў. Сасна́ ап сасну́ б'и́лас'а. Йак стýкн'иш сасну́ — з'в'ин'и́ц'. Л'ес и л'ес, гл'áн'иш ув'éрх — шáпка вáл'ицца.

У аднагó майгó бáц'к'и кал'á дваццац'и́ вул'л'óў стайáла ў л'éс'е. Пастав'иў вул'éй — так да вóс'ьн'и пóв'ьн м'óду. У нó-

выйа кало́ды райй са́м'и п'ирахо́дз'ил'и. Л'исна́йа пчала́ н'ичо́га н'и баййцца: н'и в'е́тру, н'и хо́ладу. Ко́жны дз'ен' наро́т ишо́ў у л'асы́ й у л'асы́.

Вот адз'и́н рас мой ба́ц'ка ис друг'и́м ахо́тн'икам йе́з'дз'иў на ахо́ту. Зайе́хал'ис'а йаны́, йик вы да нас, у вадно́ м'е́ста пат Бары́сава. Йак там йаны́ ахо́ц'ил'ис'а — им знац', а б'ис вы́п'иўк'и, му́с'иц', н'и абышло́с'а. Ба́ц'ка ча́ста пам'ина́ў ге́та пал'ива́н'н'е.

Тут по́л'е ран'е́й было́, а там л'а гары́ дуп в'ал'и́к'и стайо́ў. Ба́ц'ка дайе́хаў да ду́ба, што л'а даро́г'и рос, и што-та йаму́ здало́с'а: распро́х кан'а́, прыв'изо́ў йаго́ да ду́ба, паск'идо́ў кал'о́сы, раз'дз'е́ўс'а и л'ох спац'. Прасну́ўс'а й гл'адз'и́ц' — жак'е́тка л'ажы́ц' ра́дам, кал'о́сы раск'и́даны й кон' угра́сшы. Йа, ка́жа, надз'е́ўс'а скаре́й и да сус'е́да. До́ўга по́тым над им л'у́дз'и пац'иша́л'ис'а.

*Запісана ў 1952 г. П. М. Гапановічам ад Ц. М. Сасноўскага, 78 г.*

## Паперня (№ 222)

355 По́з'н'ай во́с'ьн'н'у тру́нна нам ста́ла: кругo̗м зас'е́л'и кара́ц'ьл'и, адус'у́л' с'ц'агну́л'и пал'ица́йиў. Вы́шаў хл'еп и патро́ны на йсхо́дз'е. И вот рашы́л'и мы прарыва́цца ў другу́йу пу́шчу. Пашо́ў у разв'е́тку й йа. Во́с'ьн, ноч, ц'о́мна, а мы паўз'о́м ускра́й л'е́су. Хо́ланна ста́ла, басы́ — до́ўга н'и папоўз'е́ш. Тады́ сус'е́т мн'е й гаво́ра: «Дава́й праб'ира́цца па тей старан'е́». Ско́ра паказа́л'ис'а ха́ты.

Дабра́л'ис'а мы да кра́йн'ай ха́ты, падышл'и́ да вакна́ й чу́йем — гаво́руц'. А но́ччу ге́та было́... Назо́ўтра к'ило́м'итраў с'имна́ццац' ишл'и́ п'е́шшу. Нат л'иса́м'и самал'о́ты прал'ита́л'и... А сын мой йак пашо́ў у парц'иза́ны, так да со́рак шо́стага го́да н'и прыйижджо́ў дамо́ў.

*Запісана ў 1952 г. П. М. Гапановічам ад В. В. Асіновіча, 49 г.*

356 Мно́г'ийа тады́ ўц'акл'и́. Аста́в'ил'и до́ма ўс'о. Дабро́ было́ н'и абмало́чанайе, и пры н'ам'е́цк'им нал'о́ц'е ўс'о згаре́ла. Дз'аре́ўн'у спал'и́л'и да па́лк'и. Ге́на ву́л'ица ўс'а згаре́ла, на́ват сам'и́м кара́ц'ил'ам' н'и было́ куды́ дз'ива́цца.

Праз с'амйу до́ўга н'и знаў, а по́тым йаны́ аказа́л'ис'а. Дачка́ зв'азно́й была́ ў парц'иза́нск'им адра́дз'е. Аднаго́ ра́зу парц'иза́ны падйе́хал'и надв'е́чър и п'ираб'и́л'и н'ам'е́цк'и гарн'изо́н.

*Запісана ў 1952 г. П. М. Гапановічам ад Я. Л. Салаўя, 68 г.*

## Раўбічы

357 За вайну́ ў нас палав'и́на з'амл'и́ л'е́сам пазараста́ўшы. А да вайны́ ўс'о зас'ива́лас'а, з'имл'а́ до́бра радз'и́ла. Калхо́с

свайу́ м'е́л'н'ицу м'еў, турб'и́ннуйу вадз'ану́йу. И ел'иктраста́нцыйа свайа́ была́, и л'ес свой м'е́л'и. У адне́й ку́з'н'и то́л'ка нас чатыро́х кавал'о́ў раб'и́л'и. Адны́м сло́вам, бага́ты быў калхо́с, хл'е́ба заўс'о́ды хапа́ла.

*Запісана ў 1952 г. П. М. Гапановічам ад І. Л. Міхалевіча.*

### Сухарава

358 Тара́сава ад нас к'ило́м'етраў шес' стайа́ла. Наро́т там на п'ишча́ных м'еста́х жыў. Прыбл'и́зна дваро́ў ис со́рак было́. Н'ив'ал'и́чкайа ре́чка прац'ика́ла, круго́м бало́ты, л'асы́. А ц'ип'е́р ге́та с'ало́ ско́ра бу́дз'е гран'и́чыцца з на́мы. На аткры́тым по́л'и жыв'о́м. Л'е́су до́брага н'и ў нас, н'и ў их ужо н'има́. Л'адз'и́ц'е, як'и́мы па́л'им то́нк'имы дупца́мы. Сало́мы с'о́л'ьта во́бмал'.

*Запісана ў 1952 г. П. М. Гапановічам ад Г. А. Жыгалкі, 72 г.*

## СМАЛЯВІЦКІ РАЁН

### Слабада (№ 223)

ХІТРЫ ЗЛОДЗЕЙ

*(Казка)*

359 Адз'и́н рас в'е́чарам захо́дз'иц' — ге́та было́ ў старо́йа уре́м'а — захо́дз'иц' к чалав'е́ку к аднаму́ чалав'е́к начава́ц'. Захо́дз'иц' к йаму́ ва дво́р. Гаспады́н'а падайи́ла каро́ў, загна́ла, а забы́ла бычанка́ загна́ц'. А там у их пат хл'е́вам в'ис'а́ц' ре́з'г''ины. Йон н'и до́ўга ду́майа, атчап'и́ў павадо́к, зак'и́нуў ге́таму бычанку́ на ро́г'и и прыв'аза́ў йаго́. Захо́дз'иц' у ха́ту и про́с'ицца п'ираначава́ц' и гаво́рыц': «Йа н'и адз'и́н, у м'ан'е́ бычано́к с сабо́й». Гаспада́р ге́ты ка́жа йаму́: «Начу́й и бычанка́ прыв'ажы́». Йон ка́жа: «Йа ужо́ прыв'аза́ў». А гаспады́н'и ка́жа: «Там, мо́жа, у вас астало́с'а йако́й травы́, так да́йц'а бычанку́, хай гало́дны н'и стайи́ц'». Гаспады́н'а пашла́ патк'и́нула таму́ бычанку́ травы́ и прышла́ ў ха́ту и ка́жа сваймў гаспадару́: «Йакра́з жа йаго́ бычано́к, йак наш, йак капл'а́ у ка́пл'у». А гаспада́р ужо́ ка́жа: «Ей, чудна́йа, ц'и скац'и́на у скац'и́ну н'и ўда́сца, чалав'е́к на чалав'е́ка и то пахо́ж». Тады́ йаны́ пав'аче́рал'и ужо́ ге́та, ну и, кан'е́чна, л'агл'и́ спац'.

Наза́ўтра ужо́ чалав'е́к уста́ў пара́н'ша, каб в'е́с'ц'и прадава́ц' бычанка́. Уста́ў, уз'а́ў бычанка́, падз'а́каваў гаспадару́ и пав'о́ў у го́рат. А гаспада́р то́жа сабра́ўс'а у го́рат с свайе́й гаспады́н'ай на база́р прадава́ц' кажу́х. Ну, ал'е йаны́ на кан'и́, так усп'е́йуц' йе́хац' паз'н'е́й. Вот йаны́ сабрал'и́с'а, с'е́л'и и пайе́хал'и.

Йе́дучы, наган'а́йуц' йаны́ ге́тага са́мага чалав'е́ка, и гаспады́н'а зноў ка́жа гаспадару́: «Ну вот пагл'адз'и́, йакра́с наш бычано́к». А гаспада́р ка́жа йой: «Ц'и́ша, н'и с'м'ашы́ л'удз'е́й».

Прыйе́хаўшы на база́р, йаны́ астанав'йл'ис'а прадава́ц' кажу́х. А ге́ты чалав'е́к за цану́ н'и стайа́ў и с'ича́с жа прада́ў бычанка́. Прада́ў и прыхо́дз'иц' к ге́таму, што прадайе́ кажу́х. Гаспада́р и пыта́йицца ў йаго: «Ну што ж, прада́ў бычанка́?» Ге́ты атв'ича́йа: «Прада́ў». А ў их пыта́йицца: «А што вы прадайиц'о́?». А йаны́ атв'ача́йуц': «Кажу́х». Йон тады́ гаво́рыц': «Дава́йц'а йа купл'у́ ге́ты кажу́х». Уз'а́ў, нак'и́нуў йаго́ на пл'е́чы, уро́дз'и м'е́рыц', и ка́жа: «Ей, йон мн'е до́бра падхо́дз'иц'. Ско́л'ка вы за йаго́ хо́чыц'а?»

Тут йа н'и скажу́ цану́, йак было́, ал'е гаспада́р сказа́ў цану́, и йон сагла́с'ан. Йак уск'и́нуў кажу́х на пл'е́чы, так и идз'е́ бары́ш п'иц' у зайе́жжы дом.

Йак зайшл'и́, а йаму́ ус'е́ там шынка́рк'и знако́мыйа, йон ка́жа: «Н'ас'и́ г'а́рн'ац гаре́лк'и и гус' сма́жануйу». От, йаны́ пачал'и́ п'иц' бары́ш, с палав'и́ну вы́п'ил'и, гу́с'и ге́тай атйе́л'и. Прахо́жаму ду́майицца: «Тре́ба ул'изну́ц'». Йон гл'адз'и́ц' у вакно́ и ка́жа: «Ун' кум мой пайшо́ў, тре́ба пазва́ц', хай и йон гаре́лку вы́пйа. А бары́ш п'иц' тре́ба, каб л'у́дз'и был'и́». Йон скаре́й у дз'в'е́ры и крычы́ц': «Кум, пасто́й, кум, пасто́й!» — и паб'е́х за уго́л, за друг'и́. А йаны́ с'адз'а́ц', чака́йуц'.

За́рас сын прыйажджа́йа — агл'е́дз'ал'и, што бычанка́ н'има́. Уска́квайа узвално́ваны у карчму́ и крычы́ц': «Дз'е той чалав'е́к, н'а в'и́дз'ал'и йаго́, йон на́шага бычанка́ з'в'оў!» Ба́ц'ка ка́жа: «Йон паб'е́х ку́ма звац' и кажу́х з'н'ос». Йон б'е́хчы, а шынка́рка йаго́ за кры́сы: а заплац'и́ за гаре́лку, за гус'. Гарадавы́ с'уды́, за йаго́ ды у катала́шку. А там йашче́ ўсы́пал'и, п'ираначава́ў, заплац'и́ў за начл'е́х и пашо́ў дамо́ў, йашче́ за гаре́лку заплац'и́ўшы.

*Запісана ў 1950 г. студэнтамі Белдзяржуніверсітэта Юрэвіч, Ярашэвіч, Камароўскім ад У. З. Міхалевіча, 64 г.*

## ЧЭРВЕНЬСКІ РАЁН

### Ляды (№ 515)

360 Мы п'е́рвыйе уступ'и́л'и у калга́с. Нас было́ дво́йе. А пато́м хло́пцы падрасл'и́. Стара́л'ис'а, раб'и́л'и, дак палучы́л'и дз'ев'ано́ста пудо́ў хл'е́ба и вас'имна́ццац' пшан'и́цы. Калга́с наш харо́шы быў. Буды́нку было́ мно́га. Н'е́мцы йак прышл'и́, дак спал'и́л'и ус'о́. У нас парц'иза́ны был'и́, дак н'е́мцы байа́л'ис'а, ал'е быва́ла нарыва́л'ис'а. Тады́ йак п'е́ршайе акруже́н'н'е было́. Ба́бы пла́чуц'. А н'е́мцы йе́дуц'. Пазаб'ира́л'и мушчы́ны ко́н'и и пайе́хал'и у л'ес. Наза́ўтра з'б'ира́йуцца ба́бы иц'и́ у в'о́ску — аш н'е́мцы йих и палав'и́л'и. И во́с'им дз'о́н стайа́л'и у с'ал'е́. Тады́ йаны́ нараб'и́л'и дз'ало́ў. Павыган'а́л'и ус'и́х л'удз'е́й, вы́страйил'и. Йак ка́жуц' л'у́дз'и, п'еражы́тайе н'е забы́тайе. У на́шай дз'аре́ўн'и пл'е́нныйа стайа́л'и, а да́л'е* ста́л'и н'е́мцы йих заб'ира́ц', а йаны ў парц'иза́ны пашл'и́. У нас была́

дз'арéўн'а да вайны́, так'и́йа будынк'и был'и́, такóйе гумнó, с'в'и́ран, бáн'а! Мы йак пабáчал'и вайнý, дак йак пачнýц' гавары́ц' пра вайнý, дак аш валасы́ ды́ба станóв'ацца.

У нас л'асы́ в'ал'и́к'ийа. Нáшу дз'арéўн'у звáл'и другóйу Масквóйу. У нас Ц'ихам'и́раўск'и атрáт стайáў, ус'é гарн'изóны паразб'ивáл'и. От грам'и́ў н'ёмцаў. Наступáл'и н'éмцы, а ц'ихам'и́раўцы йак уз'áл'и бой, дак н'éмцы уц'акл'и́. З'имóйу хóладна, а дз'éц'и малы́йа, а ў дз'арéўн'и н'éмцы. Йа йéду и плáчу. А парц'изáн кáжа: «Чагó плáчаш?» А йа кажý: «Вот уц'акáйем, а вы на бой идз'ац'é». Йа йак гл'áнула — аш н'éмцы. Йа и закалац'и́лас'а. А йон [немец] настáв'иў аўтамáт и крычы́ц': Иц' ту!» Йа устáла з дз'аўчы́нкай и идóм. Налав'и́л'и нас тры́ццац' с'ем душ. А нас гóн'ац' па с'н'агý па пóйас. Ну, прыгнáл'и нас у с'алó, ачап'и́л'и. Ну, што. Тады́ дз'éц'и у гóлас — то дал'бóх душá разрывáйецца — да пас'ин'éл'и, да пачарн'éл'и йаны́. Ну, прав'éрыл'и нáшы клýнк'и и пагнáл'и у пóл'е, а там йáмы капáйуц'. Мы дýмайем, што уже б'иц' бýдуц', аш пагнáл'и у Л'áды. Загнáл'и на двор, часá паўтарá нас там дз'аржáл'и, а мы пакал'éл'и, пачарн'éл'и. А тут Макáўе гары́ц'. Дык мы сабрáл'ис'а и идóм, а тут часавы́йа стайáц', а мы с' дз'éц'мы, а марóс! Йон пытáйа, дз'е был'и́, мы кáжам — у л'éс'и. Йон и пав'óў нас. Зав'ал'и́ у хáту на дапрóс. Да так с'и́л'на дапрáшвайа. Пытáйуц', ц'и парц'изáн мнóга. А мы кáжам — н'е в'éдайем.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута І. Германовічам і С. Залескім ад Х. Бабіч, 40 г.*

## Ачыжа (№ 516)

361 Набрáла йа буты́лку вады́ кал'á калóдца, а н'éм'ец крычы́ц': «Стой!» Дак йа зал'éзла у пýн'у, атадрáла дóшку, да йак атчын'и́ла, дак л'ýдз'и и пашл'и́. Аш пры́б'егл'и н'éмцы, стáл'и у б'инóкл'и гл'адз'éц'. Ну, разышл'и́с'а ус'é. Назáўтра и злав'и́л'и нас, пасадз'и́л'и, нав'ал'и́ пул'ам'óт и рагóчуц'. А дал'é * кáжуц': «Пал'и́ц'е кас'ц'óр». А дáл'е прыгнáл'и машы́ну, пасадз'и́л'и чалав'éк сóрак, йак ирванýц', дак л'ýдз'и аш п'ишчáц'. Прыв'éз'л'и у знакóмайе м'éсца, зав'ал'и́ у пýн'у и замкнýл'и. Назáўтра пат гумнó дз'в'е арýдз'и и йак пачал'и́ б'иц' па л'éс'е, дак пýн'а аш калóц'ицца.

Тры разы́ хац'éл'и нас н'éмцы улав'и́ц'. А нас у с'ал'é н'икóга н'е былó. Ус'é жыл'и́ ў л'éс'е. Хто 'стóўс'а адз'и́н, хто з' дз'и́ц'ем. А н'éмцы идýц' да гéкайуц'. А мы патам'и́л'ис'а. Кáжам: «Давáй аддыхн'óм». А тут н'éмцы. Ус'е йак к'и́нул'ис'а уц'акáц'! Тóл'к'и трóха улав'и́л'и. Тóл'к'и аднá дз'аўчы́на вы́л'азла. Вы́шла, ды паўс плот. Стайáў вос, а на вóз'е дз'éшка, дак йанá ў дз'éшку зал'éзла. А дошч йак ул'éйаў, йак ул'éйаў, кап ты в'éдала.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута І. Германовічам і С. Залескім ад Е. Я. Галкі, 63 г.*

## Новая Ніва (№ 510)

362 А м’е́л’н’ицу спал’и́л’и н’е́мцы. У нас тут то́л’к’и адна́ й была́ на вадз’е́. Ва́жнайа была́. Парц’иза́ны спал’и́л’и мост, каб н’е́мцы н’а п’ерахо́дз’ил’и, йаны́ на ху́тары стайа́л’и. Хадз’и́л’и, хадз’и́л’и круго́м (ге́та с’аре́дадн’а было́), ды й спал’и́л’и.

Каб была́ м’е́л’ница, то мы б уз’ал’и́ йе́та тут йачм’е́н’у да й змало́л’и. А то мы н’икуда́! Тут нараб’и́л’и жаро́н дз’ерав’а́ных, ал’е н’а м’е́л’уц’ ц’ап’е́р. Нам’е́л’аш, дак вада́ саб’е́, а йе́та саб’е́. А там кам’ан’и́ ц’ашк’и́йа. Мы, и ўну́чка, и з’ац’ — ус’е́ мало́л’и. То што ш вада́ — с’и́ла! И там по́тсып раўнам’е́рны, а то тро́х’и патсы́паў, то й пашло́ кру́пна. А м’е́л’н’ица была́ даўно́, йак с’в’ет сушчаству́йе. Йа то по́мн’у пам’е́шчык Ше́в’ич збудава́ў но́вуйу, у во́с’имдз’ас’ат шо́стым гаду́, з’имо́йу йак згаре́ла. Пабудава́л’и йашче́ но́вуйу — йана́ згаре́ла ў дз’ев’ано́ста друг’и́м гаду́, на пакро́вах. Пабудава́л’и но́вуйу, и та́йа ўжо до́ўга стайа́ла. А на йе́тым м’е́с’ц’и бог зна́йе, ко́л’к’и ўжо м’е́л’н’ица сушчаству́йе. Тут была́ и сукнава́лка. У йих была́ ал’е́йн’а. И быў чалав’е́к, што ма́йстрам быў. А на йе́тай ал’е́йн’и йаны́ схава́л’и гро́шы. А йон нашо́ў ды уз’а́ў. А йаны́ агл’е́дз’ил’и, заман’и́л’и, дык йон аддаў. Йаны йаму́ дал’и́ хл’е́ба. А там было́ ты́с’ач двана́ццац’ зо́лата. Йаны́ так’и ў Маскву́ й уйе́хал’и. Ц’ераз ву́л’ицу тут йо́с’ц’ака, што у йих служы́ла.

Бало́та йе́та у нас, грас’, вада́. А то ба́гна н’асхадз’и́майа. Там гу́ск’и, трава́ така́йа, расту́ц’ на граз’и́, па два л’истк’и́ на ко́рн’и, св’и́н’н’ам дайу́ц’. А ў Йу́рав’ич, ка́жуц’, на йих [гускі] како́шн’ик, то мы с’м’айо́мс’а з’ йих.

Пайду́ ваз’му́ тре́сак ды ў п’еч ук’и́ну: звары́ц’ тро́х’и бу́л’мы.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута В. Ц. Мяцельскім і І. І. Скорбеж ад С. Д. Няборскага, 78 г.*

## Грабенка (№ 508)

363 Даўн’е́й уже в’асна́ наступа́йа, дык уже пла́х’и дз’е́лайуц’. Ну, ал’е то́л’к’и ге́тайа пла́ха *, дык йана́ лама́йецца, а бо́раны, дык йаны́ йашче́ быстре́й. А зраб’и́ц’ йайе́ дык в’е́лм’и ц’а́шка. Йано́ йак ц’а́шка, ал’е рабо́ты мно́га, паку́л’ накру́ц’им б’аро́завых дупцо́ў, а йаны́ дык йак патсо́хнуц’ на со́нцы, дык йак ба́чыш пал’ац’а́ц’ и на адну́ в’е́сну н’е хва́ц’иц’. Ай, ал’е ш даўн’е́й и жы́з’н’а была́ мудре́й кру́чанага саба́к’и.

Йа ш н’е ко́нчыў н’и аднаго́ кла́са и н’е ўм’е́ў н’и чыта́ц’, н’и п’иса́ц’. Ал’е йак пашо́ў у а́рм’ийу, то тро́х’и и навучы́ўс’а. Ал’е ш йака́йа там вучо́ба была́! Бува́ла, по́йдз’аш у карау́л, во́з’м’еш каранда́шык, ц’атра́ц’, буква́рык и с’л’иб’изу́йеш памал’е́н’ку. Дык чаго́ тро́х’и н’и в’е́дайеш, пыта́йаш у салда́т. И вот ге́так тро́х’и навучы́ўс’а. Чыта́ц’ то сла́ба мох, а вот п’иса́ц’, то до́бра навучы́ўс’а.

Н'ѐкал'и ш у нас тут л'асы́ был'и́, што н'е прайс'ц'и́. Дык ду́майац'а што — м'адз'в'ѐдз'и вадз'и́л'ис'а. Адну́ з'иму́ дык аш п'ац' штук заб'и́л'и у каз'о́нным л'ѐс'и. Ус'о́ ш так'и, хоц' л'ес каз'о́нны быў, ал'е на м'адз'в'ѐдз'аў зага́двал'и.

Дз'ѐлал'и так, што на со́сны ву́л'л'и ц'ага́л'и с пчо́лам'и, дык гѐтыйа м'адз'в'ѐдз'и збра́сывал'и. И здайѐцца высо́ка ус'ц'а́гвал'и, а йон пато́м уз'л'ѐз'а и сц'а́гн'а.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута В. В. Рудакоўскім і М. С. Васілеўскім ад А. Я. Алейніка, 78 г.*

## БЯРЭЗІНСКІ РАЁН

### Кукарава (№ 540)

364 (*) Пра́л'и, снава́л'и кро́сны, б'и́л'и йих, ты́йа кро́сны, пра́н'икам'и, у сту́п'и таўкл'и́ асно́ву, сушы́л'и, на наво́й нав'ива́л'и, нак'ида́л'и ў н'ит, тагды́ ў б'о́рда. И ў два н'иты́, и тры, и п'ац', и двана́ццац'. Шы́л'и балахо́ны, насо́вы *, андара́к. У шес' по́лак п'иратыка́н'н'а, насо́ўчык, и што́н'ик'и б'ѐл'ин'к'ийа. Зав'а́жуц' нам'о́тку *, пазатыка́йуц' ро́жк'и.

Хл'еп п'акл'и́ пшан'и́шны и жы́тн'и из раз'и́нкам'и. З'имл'а́ была́ н'и наво́знайа. Даўн'ѐй н'и знаў жан'и́х маладу́х'и, а маладу́ха жан'их́а, паку́л' в'инча́цца. Ус'а́к жыл'и́.

Галава́ майа́ слаба́йа. Кал'и што рабл'у́, к'и́ну. Во́с'м'ара было́ дз'ац'ѐй, и пашы́ц' и спра́с'ц'и само́й. До́чк'и шче йо́с'ика, до́ма у с'ал'ѐ за́мужам. Бо́л'шай дз'ѐўца чаты́рнаццаты гот. Шкаду́йа, и йа шкаду́йу. Прыв'азо́м дамо́ў. Кап абы-йак'и́йа был'и́, н'ихаро́шыйа.

Ц'ип'ѐр ус'у́ды кусо́к хл'ѐба заро́б'иш. Ц'и шо́сты гот йак йина́ ў нас? Каза́л'и — жан'и́с'а, п'ерш зав'ину́ўс'а быў, по́сл'а ац'и́х. Ко́л'к'и йон пажы́ў. Н'ав'ѐстка н'и дачу́шка — с'ан'н'и́к н'и паду́шка. Йон быў тры́ццац' тры гады́ л'ис'н'ико́м. Гадо́ў из' н'ѐскул'к'и пал'аво́дам. На тра́ншпарц'и. Было п'ац' сыно́ў. Дз'ал'и́л'ис'а, ды н'ико́л'к'и н'и руга́л'ис'а. Гѐта за майго́ чаты́ры гады́ маладз'ѐй. В анны́х гада́х. Йа ц'ерас ха́ту — ра́зам расл'и́, гадава́л'ис'а, и ра́зам в'ек дажыва́л'и и з'в'икава́л'и. Ба́ц'ка пам'о́р, мн'ѐ было чаты́рнаццац' гадо́ў. Ат кал'а́т пашло́ вас'м'идз'ис'а́т п'ѐршы.

Ац'ѐц по́йдз'а у сваты́, вы́сватайицца, а сын н'и зна́йа и н'и ба́ча. Тады́ прыхо́джуц' зару́чаны п'иц'. Папи́йуц', ц'ераз' н'адз'ѐл'у сва́дз'бу спраўл'а́йуц'. Тады́ прыйижджа́йуц' брац' н'ав'ѐстку и йѐдуц' к в'анцу́. Маладу́ха б'арѐ дз'в'ѐ дру́жк'и, а малады́ ша́х'ира, а па до́ўн'аму брус'н'и́к *. Прыхо́дз'им у цѐркву, и ба́ц'ушка круго́м во́дз'а. Ша́х'ир дз'аржы́ц' в'ано́к над жан'ихо́м, дружк'и́ — над маладу́хай. Ба́ц'ушка во́дз'а йих круго́м стала́ и п'айѐ. Тады́ з'в'инча́йуцца, пааб'ѐдайуц' и ўжо дамо́ў йѐдуц'. Сва́дз'бу гул'а́йуц' у маладу́х'и. Назо́ўтра жан'и́х прыйижджа́йа па маладу́ху и тады́ в'адз'ѐ дамо́ў.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута В. І. Ляпёшкіным і М. А. Купрыянчыкам ад М. В. Буліч, 67 г.*

**Паплавы (№ 509)**

365 (*) Зна́чыц’, удвайо́м с стару́хай жыв’о́м. Радн’и́ н’ийа́кай. Йо пл’ам’е́н’н’ик’и, ал’е йаны́ дал’о́кайа радн’а́. Пры н’е́мцах пагаре́л’и, бу́тк’и пастаўл’а́л’и уре́м’инныйа. Прышл’и́ з’ л’е́су — дык н’ичо́га н’ама́. Прышо́ў з’ л’е́су, с’еў пад л’и́пку и пла́чу. Дожж идз’о́т, и йа пла́чу, а спра́тацца н’ама́ куды́, а ц’ап’е́р ужо харашо́.

Ра́н’ше пам’е́шчыцкайа дачка́ так н’а разадз’е́тайа была́. Да́жа са́м’и платк’и́ тка́л’и, а ц’ап’е́р жыс’ц’ малады́м — прыбра́ныйа хо́дз’ац’. Пры н’е́мцах был’и́ у л’асу́. Прышо́ў, звал’и́ў бага́цтва то́йа, што на свайи́м гарбу́ н’ос, и н’а в’е́дайу, што раб’и́ц’. Ды пачал’и́ но́вуйу карто́шку капа́ц’, ды каро́ўку прыгна́ў. Да́ццы было́ два́ццац’ тры гады́, у М’и́нску служы́ла.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута ад В. Дылейкі, 83 г.*

## ІМЖАЧКА

*(Жарт)*

366 Пав’о́ў сын з ба́ц’кам кабы́лу па́с’в’иц’. Была́ во́с’ин’скайа имжа́чка. Имже́ла. Ба́ц’ка спац’ л’ох, а сы́ну сказа́ў п’ил’нава́ц’ кабы́лу. Сын уба́чыў ваўка́ и ду́маў, што ге́та имжа́ка. Йон и ка́жа:

— Та́та, та́та, имжа́чка идз’е́ц’.

— Дармо́, сыно́к, н’иха́й идз’е́ц,

— Ды зноў с’п’иц’.

— Та́та, та́та, имжа́чка ужо л’а́ кабы́лк’и ска́ча.

— Дармо́, сыно́к, н’иха́й ска́ча.

— Та́та, та́та, имжа́чка ужо кабы́лку павал’и́ла.

— Дармо́, сыно́к, — ка́жа, — н’и́хай л’ажы́ц’.

— Та́та, та́та, имжа́чка кабы́лку ужо разарва́ла.

А йон с’п’иц’.

— Та́та, та́та, ужо кроў пал’ила́с’а.

Усхвац’и́ўс’а ба́ц’ка — аж ге́та воўк.

— А чаму́ ж н’и каза́ў ран’е́й!

— Йа ш каза́ў, што имжа́чка идз’е́ц’. Йа ш ду́маў, што ге́та имжа́чка.

## СКУПАЯ БАБА

*(Казка)*

367 Была́ бага́тайа, бага́тайа ба́ба, ды ду́жа скупа́йа. Ха́тка йийе́ мал’е́н’кайа дре́н’н’ен’кайа. Ско́л’к’и жыла́, ус’о́ ц’и́снула, ц’и́снула — ус’о́ з’б’ира́ла бага́ц’ц’е. А ў ха́ц’и н’и памо́ста *, н’ичо́га. Прышо́ў у дз’а́ре́ўн’у салда́т п’ираначава́ц’. Йаму́ сказа́л’и, што йо бага́тайа ба́ба, ал’е́ пад йайе́ н’ихто́ н’и патсту́п’ицца: у йайе́ мно́га гро́шай. [Прышоў салдат].

— Майо́ дз’е́тк’а, у м’ан’е́ ш ц’е́сна.

— Н'ичаво́, ба́пка, с'м'и́рымс'а.

Ба́ба н'ичо́га н'и дала́ йаму́ йе́с'ц'и, и йон стаў вары́ц' тапо́р.

— Ай, — ка́жа ба́ба, — у нас н'ихто́ н'а ва́рыц'.

Н'ичаво́, ба́бушка, йон уку́сный, ал'е то́л'к'и тре́ба круп и со́л'и.

— Йо, — ка́жа ба́ба. И прын'е́сла йаму́ со́л'и и кру́п.

— Лу́ку на́да, ба́бушка.

— Йо и лук.

Кал'и́ звары́ўс'а суп, ба́ба паспыта́ла. Суп уку́сны и тапо́р це́лы.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута ад А. С. Шапялёнак, 50 г.*

## Багушэвічы (№ 511)

368 Зна́чыцца, йик пат Л'ен'ингра́дам йим йак да́л'и, дык йаны́ йи с-пат М'иг'ил'о́ва вы́брал'ис'а. Йим там ужо́ так да́л'и! А ў дз'аре́ўн'и н'иц н'ико́га, а йаны́ с-пат л'е́су, а атку́л' дык на на́ша с'ало́ снара́ды ста́л'и сы́пац'. Н'е́мцы прышл'и́ рас уно́чы, ацап'и́л'и ха́ту ды сту́кайуц' у дз'в'е́ры: «Атвары́, хадз'а́йин!» Увашл'и́ у ха́ту. Мы на п'е́чы с'аджо́м. «Што вам тре́ба?»,— кажу. А йаны́: «М'и́ша Б'ал'а́з'ин у вас харо́н'иц-ца?» А мы ка́жам: «Н'ама́». Вот йаны́ и н'а знайшл'и́.

А ста́ршы сын с'е́м гот служы́ў на мо́ры. А самал'о́таў дык шмат л'ац'е́ла, йи пу́шк'и страл'а́л'и, дык ув адз'и́н йак папа́л'и, то йон йи упаў л'а радро́ма и загаре́ўс'а; л'о́ччык'и дык, ма́быц', спас'л'и́с'а. А йак на́шы прышл'и́, дык тут мно́га та́нак стайа́ла. Йаны́ спра́в'ил'ис'а, дык пайе́хал'и на хронт, а мы ста́л'и з' л'е́су выпо́ўзвац', йак ра́к'и.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута М. А. Лазаруком і А. М. Самурыным ад Г. Белязяка, 77 г.*

369 Йак то́л'к'и прышл'и́ н'е́мцы, дык йа ш малады́, дык хава́ўс'а. Зал'е́с, ге́та зна́чыц', йа пат памо́ст *. Дз'ава́цца н'е́г-дз'а. А н'е́мцы прын'е́сл'и ма́ц'ары гус' жа́рыц'. Дык ма́ц'и гус' зажа́рыла, дык н'а па-йи́хн'аму. Йаны́ й н'а б'ару́ц'. Ма́ц'и й ка́жа: «Ну, то й тра́сца вас». Йе́ту гус' мн'е пат памо́ст аддала́. М'ан'е́ с'м'е́х б'аре́. А по́тым йа вы́л'ас атту́л'.

Мы прыб'е́гл'и ў л'ес, а там на́шы мушчы́ны. Жыво́м там, а там была́ ха́та, дык йаны́ й ка́жуц', жыв'и́ ў йой, а йа ду́майу: «Начо́рта йана́ мн'е». У парц'иза́нах мы был'и́, стайа́л'и там у л'е́с'а. Тут пабыл'и́ мы, му́с'иц', дн'и чаты́ры, а по́тым пашл'и́. Йикра́с мы з'б'и́л'ис' с ка́рты, йи тут бало́та бал'шо́йа. А йикра́с ишо́ў бран'ипо́йаст. Дык йаны́ чу́йуц', што хто́с'ц'и хл'о́пайа, а йе́та ко́н'и на́шыйа. Дык йаны́ дава́й страл'а́ц'. И ус'и́х ко́н'ай пастрал'а́л'и.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута М. А. Лазаруком і А. М. Самурыным ад В. Няхая, 35 г.*

370 У нас з'амл'и́ н'амно́га было́: ба́ц'ка аткуп'и́ў паўтара́ вало́к'и. А радн'и́ майо́й мно́га, ды н'иго́днага тут н'ама́. У ба́ц'к'и до́бра было́ — там нас шмат было́. Мы удз'в'о́х пашл'и́ за́муш. Пашла́ за́муш, два гады́ пабыла́ йи заўдав'е́ла, дык йа пашла́ служы́ц', у пано́ў служы́ла. Дре́нна было́, ды пато́м н'а до́ма, ды ус'а́каму тре́ба услу́жыц'. Ц'ап'е́рака н'и пло́ха, ал'е што б'аз здаро́ўйа астала́с'а, аглу́хла. Ужо у м'ан'е́ с'ем сыно́ў было́ и п'ац' дачо́к, дык вот ц'ап'е́р аглу́хла. А у м'ан'е́ быў п'е́ршы сын, дык и наву́чны быў: што н'и загл'е́дз'иц', дык зро́б'иц'.

Йа за вайну́ што палажы́ла здаро́ўйа, так байа́лас'а. Адз'и́н рас, дык прышл'и́ йаны́ [немцы] йайе́ц. Йа ге́та схава́лас'а. Скаре́й у ха́ту, галаву́ ув'арц'е́ла ды на п'еч. Аш йаны́ прыхо́дз'ац'. А кап йих вы́гал'ила!

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута М. А. Лазаруком і А. М. Самурыным ад М. Няхай, 78 г.*

## Якшыцы (№ 514)

371 А пато́м адда́л'и у сап'о́рнуйу кама́нду м'ан'е́, йа сап'о́р. Дайу́ц' мн'е полк, пав'адз'е́ш и пака́звайеш, йак капа́ц'. Чы́на н'ийа́кага н'а заслужы́ў, го́ра паба́чыў. Йа п'ац' гот служы́ў, два гады́ до́ма, тады́ жан'и́ўс'а. А ў апо́нскуйу н'а быў. Быў на туре́цкай, на по́л'скай. Пагна́л'и нас туды́ бл'андажы́ дз'е́лац', надз'з'ира́ц'ал'и кру́ц'ацца. А да́л'ай * йа прышо́ў damо́й. И н'е́мцаў пагна́л'и. Н'е́мцы падво́ды бра́л'и на́шы, пло́ха было́. Палажы́лас'а й на́шых мно́га; тут л'а м'ан'е́ чалав'е́к л'ох, ко́нны, с'адло́ ў гр аз'и́. Йа служы́ў на Каўка́з'а, дал'е́ча. Вайна́ в'ала́с'а с ту́ркам. Мы забра́л'и кре́пас'. М'ан'е́ заста́в'ил'и гавары́ц' па-ру́ск'и; ту́рк'и вучы́л'ис'а, дык тро́х'и пан'ал'и́с'а. Л'е́там йон идз'е́, йик с'м'арка́йацца, у го́ры, на ишака́х во́ду во́з'ац'. А ў турча́нк'и, дык зза́ду и сп'е́раду хвартушо́к.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута М. А. Лазаруком і А. М. Самурыным ад У. Бандзіка, 93 г.*

372 А йак калга́с паста́в'иўс'а, дык йа йи с'уды́. Каро́ў дайи́ла, до́бра было́ у калга́з'е. У каго́ мушчы́н н'ама́шака, у п'е́ршуйу во́чарац' со́тк'и пас'е́йуц'. М'ан'е́ н'е́кал'к'и рас прам'ирава́л'и. А йак н'е́мцы прышл'и́, дык ус'о́ пабра́л'и. Пайе́хал'и, жы́та было́ шес' пудо́ў, куп'и́л'и ц'алу́шку, и ту́йу забра́л'и. И йак ужо́ прышл'и́ кра́сныйа, дык мы и з'амл'у́ цалава́л'и, н'ек н'а в'е́рылас'а. Ц'ап'е́р ужо дарма́! * Йаго́ назна́чыл'и с калга́са, йон на ре́чцы сплаўл'а́йа л'ес. Прыйе́дуц' майе́ пл'ам'е́н'н'ицы-дз'аўча́ты, пайе́дуц' з' йим у М'и́нск. Ужо йак памру́, дык там [«на тым свеце»] бу́дуц' пыта́цца, ну йак там? А йа скажу́, што там мацыкл'е́ты, машы́ны, самал'о́ты. Йа сама́ йе́з'дз'ила на мацыкл'е́ц'а, и на машы́н'а, на парахо́дз'е. Ал'е йа йашче́ н'а хачу́ пам'ира́ц', хоц' и стара́йа —

жыц' хачу́. Ну йайе́ к чо́ртавай ма́тары, ге́туйу с'м'е́рц'! Вот жыво́м, працава́ц' бу́дам. Н'и памро́м, дык бу́дам жыц'. А ц'ап'е́р пал'адз'и́, йак хо́дз'ац' л'у́дз'и стро́йна. Ато́ прадз'и́ куздз'е́л'у, тчы, а ц'ап'е́р дык и н'а тре́ба. Ну, хайи́ц'а у ха́ту. У вайну́ тут су́мна, стра́шна было́. Ран'е́й гра́маты й пан'а́ц'-ц'а н'а м'е́л'и, а ц'ап'е́р дык ус'е́. Йа кажу́, а хто ш рабо́тац' бу́дз'е? А йаны́ с'м'айу́цца. Н'аха́й ву́чацца, ге́та до́бра. Майа́ адна́ пл'ам'е́н'ица за хв'е́л'чара ву́чыцца.

*Запісана ў 1949 г. студэнтамі Мінскага педінстытута М. А. Лазаруком і А. М. Самурыным ад М. Грачонак, 67 г.*

## СТАЎБЦОЎСКІ РАЁН

### Мікалаеўшчына (№ 450)

#### НЯВЕРНАЯ ЖОНКА

*(Казка)*

373 Был'и́ малады́йа л'у́дз'и. И панара́в'ил'ис'а адз'и́н друго́му. И вот, зна́чыцца, йаны́ пажан'и́л'ис'а малады́йа. Йана́ ш нашла́ саб'е́ друго́га и хац'е́ла збыц' свайго́ му́жа. Йана́ сказа́ла, кап му́жа утап'и́ц'.

— По́йдз'ам на раку́, — ка́жа йана́ свайму́ мужы́ку, — и ваз'м'и́ с сабо́йу палац'е́нцо.

Прышл'и́ пад раку́. Йана́ зав'аза́ла йаму́ ру́к'и палац'е́нцам. Йон стаў пат Н'е́манам л'ицо́м и сказа́ў:

— Папхн'е́ш м'ин'е́ ў Н'о́ман.

Йак йана́ размаха́лас'о, а йон у бок сышо́ў, а йана́ и пал'ац'е́ла, а йон аста́ўс'а на б'ерагу́. Кагда́ ўк'и́нулас'а ў во́ду, йана́ и гаво́рыц':

— Спаса́й м'ин'е́!

— Йак жа йа ц'иб'е́ бу́ду спаса́ц', кал'и́ ў м'ин'е́ ру́к'и з'в'а́заныйа.

Йана́ паплыла́ за вадо́йу, а йон пашо́ў напро́ц'и́ вады́. Сустрача́йа чалав'е́ка, той падайе́ ру́к'и в'ита́цца.

— Н'ет, — ка́жа, — м'ин'е́ ру́к'и з'в'а́заны.

— А хто ц'иб'е́ з'в'аза́ў?

— Да жана́ хац'е́ла ўтап'и́ц', ды сама́ ўтап'и́лас'а.

Уз'а́ўшы то́го чалав'е́ка за с'в'е́тку, и пашл'и́ на сут. Йон аста́ўс'а ў права́х, а жо́нка ўтап'и́лас'а. И сут н'и судз'и́ў йаго́ за г'е́та, бо йана́ йаго́ ўтап'и́ц' хац'е́ла.

*Запісана ў 1952 г. М. А. Жыдовіч і студэнтамі Белдзяржуніверсітэта ад П. А. Жыткевіча, 55 г.*

### Сава́ні (№ 449)

374 Даўн'е́й в'ас'е́л'о начына́л'и ге́дак: идз'е́ сват з малады́м у свате́. И ста́в'иц' сват на стол буте́л'ку гаре́лк'и у малад́ойи. Йаны́ н'и раздз'ава́йуцца, аш пака́ их н'и прыгло́с'ац'

частава́ц’. Маладáйа зрáзу стáв’иц’ свайý гарéлку, а пóтым сват. Ну, ужó п’йуц’. Пóтым, кал’и́ ўжó вы́п’иўшы, маладáйа насыпáйа бутéл’ку жы́та (и был’и́ ткáныйа пайасé) и абв’áзвайе йайé [бутылку] пóйасам, и тóл’к’и тагды́ ужó бýдз’а в’ас’éл’о. Тагды́ ужó маладáйа пóйдз’а зáмуш. Кáжуц’, кап прыйéхал’и за ты́дз’ан’. Прыйажджáйа сват, бáц’ко, мáц’и и сам малады́ да маладóйи. А маладáйа тóжа саб’ирáйа свайи́х, и рóб’ац’ запóйины. Вы́п’ил’и и засвáтал’ис’а. Пóтым йéдуц’ на зáпав’ац’ у цéркаў. Бáц’ко маладóйи дайé на в’ас’éл’о п’идз’ис’áт рубл’óў маладóму. А малады́ маладóй наб’арé на сук’éнку. Бýдз’а скóра в’ас’éл’о. Спачáтку йéдуц’ да маладóйи. Два дн’и гулó в’ас’éл’о. В’éс’ал’о дз’éл’ац’ каравáй. Сват рéжа и дайé кáждаму. За гéто кáжды дайé ав’éчку. И ус’é п’ишуц’ гéто на бéл’цы сáжайу. Пóтым йéдуц’ да маладóго ус’é. Там тóжа дóўго гул’áйуц’ йашчé. Вот йакóйо былó даўн’éй в’ас’éл’о.

*Запісана ў 1952 г. студэнтамі Белдзяржуніверсітэта.*

## УЗДЗЕНСКІ РАЁН

### Цеплень (№ 477)

375 У такóх был’и́ сýшн’и. Тáмака кáм’аннайа п’éчка, и йон кал’и́ сырóйа збóжжа, в’аз’é и на такý у сýшн’и кладз’é. Патóм пáл’иц’ п’éчку. Устайé ўнóчы, цéпам так’и́м, пáлка и кусóк дз’éрава прыв’áзана, так и малац’и́л’и. У пасáт * сáдз’ац’ и тады́ малóц’ац’. П’арав’éрн’а, йак пабíйé, и зноў кал’и́ дáс’ц’! Ус’ó гéта за майéй пáм’ац’у раб’и́лас’а, у майи́х вачáх. Был’и́ магазы́ны так’и́йа. Камý трéба збóжжа, йéдуц’ у вóлас’ц’ и дайýц’. Катóры быў зав’éдуйушчы, и йон н’агрáматны, дак вóз’м’а пáлку и зарýбл’ивайа. Ус’агó былó два грáматныйа на с’алó. И вот у гéтым магазы́н’и в’аснóй давáл’и, а увóс’ан’ ужо аддавáў. Ну, и круц’и́л’и, кал’и пал’ажы́ц’ збóжжа, дак йанó пал’ахчáйа, так и круц’и́л’и. Так и жыл’и́ л’ýдз’и́. Карóва дóбрайа былá рубл’óў двáццац’. Увóс’ан’ п’арат пакрóвам’и быў к’ирмáш. Прыйажджáйа с’в’ашчéн’н’ик, л’ýдз’и з’йажджáйуцца за двáццац’ к’илам’éтраў. Трéба ўжо папý бýлку хл’éба, сáла кусóк. Йон прахóдз’иц’ па с’ал’é и зб’ирáйа.

*Запісана ў 1948 г. В. А. Важнікам ад А. Купрыяновіча, 82 г.*

376 (*) Мы паўц’акáл’и кýды́ хто в’идá. Павыган’óў быў н’éм’ец. С’к’итáл’ис’а па ўс’и́х с’óлах. Мы жывóм вот у гéтай нары́. Сын йе, дак за Барáнав’ичам’и у райóн’и рóб’иц’. Йа тóл’к’и запóмн’аў пайазды́, и то дз’в’е дарóг’и был’и́. А кап гéта н’éкал’и сказóў хто, што машы́ны бýдуц’ л’атáц’! Адз’и́н у с’ал’é зраб’и́ў малац’и́лку, дак ус’ó с’алó гл’адз’éла, йак на дз’и́ва. Гéта ус’ó за майóй пáм’ац’ц’у. Йон быў х’и́тры, куп’и́ў

з'амл'ў кал'а Пýхав'ич, йон и плух зраб'йў. И с таго́ ча́су йамý до́рага плац'ил'и паны́, и раб'йў йон малац'йлк'и.

Шче до́бра, што уц'óк, а у до́м'а пул' п'ийс'áт мо прал'а-ц'éла. Разóў кóл'ка, чуц', здéцца, н'а забйé. Адз'ин рас з'и-мóйу прышóў н'éм'ац — дай сы́ра, ма́сла. Кажý — н'амá. Йон прóс'иц' хл'éба. Йа йак паказáў, йак'и, то о! кáжа, н'е! Дáл'ей кýры давáй брац'.

С'óн'н'а жоў цéлы дз'ен'. Йачм'éн'у кусóчак быў, н'и кóн-чыў, астóўс'а шче.

Сын на парашýц'а спáс'с'а, быў л'óччыкам, чуц' н'а заб'й-л'и. И ў пл'ен папóў. Мой сын в'ал'йкай грáматы быў, дз'é-с'ац' кóнчыў и на Украйин'и вучы́ўс'а. А дачкá кóнчыла с'ем клáсаў. Ал'е былá байавáйа.

Даўн'éй ц'óмны быў нарóт, у лапц'áх ус'é хадз'йл'и, н'и аднагó грáматнага у в'óсцы н'а былó. Йа кры́ху вучы́ўс'а, бáц'ка паслóў, и то гéта тóл'к'и хлóпцы, а дз'éўк'и прáсц'и в'éдал'и.

Трéба гартавáц' на агн'й. Мой бáц'ка падман'йў пáна. Кáжа, трéба гартавáц' у гарéлцы, а н'и на агн'й. Пан доў йамý грóшай на гарéлку, цéлы г'áрн'ац.

*Запісана ў 1948 г. В. А. Важнікам ад М. Саладухі, 72 г.*

## Хатляны (№ 487)

377 Прыйажджáў карáц'ал'ны атрáт, акружы́л'и и брáл'и. Вы́став'ил'и караýл'ных на вýл'ицы, зашл'й у кварц'йру, вы́-гнал'и ус'йх л'удз'éй на вýл'ицу и зраб'йл'и вóбыск'и. Шукáл'и арýжыйа. И вот у адны́м пас'óлку, Чырвóнайа Гóрка, там стайáл'и прып'ис'н'ик'й, и нашл'й пóрчаныйа гранáты. И там жыл'й у гéтай кварц'йры два прып'ис'н'ик'й. Йаны́ гéтых пры-п'ис'н'икóў расстрал'áл'и двух тагды́ ш, на м'éсц'и, а патóм пайéхал'и у гарн'изóн, и назáўтра ўжо спал'йл'и кварц'йру, дз'е нашл'й гранáты.

Н'éмцаў мы пачц'й, йак [яны] атступáл'и, н'а бáчыл'и. Тóл'к'и у Вал'арйáнах, вóс'им чалав'éк дз'аржáл'и абарóну. Трéц'ага л'йп'ен'а на Пýхав'ицк'им шас'é, мы ўбáчыл'и нáшы тáнк'и.

Стары́, шейс'áт п'ац' гот быў, и дачкá былá парц'изáнкай. Хтó-та даказáў, што йанá прыхóдз'иц', йагó ўлáсаўцы забрá-л'и, з'б'йл'и, и пытáл'и, дз'е парц'изáны. Йагó прысудз'йл'и к в'йс'ал'ицы, и сýтк'и пат стрáхам дз'аржáл'и, б'йл'и, йон н'ичóга н'и сказáў.

*Запісана ў 1948 г. В. А. Важнікам і Н. П. Хачанковай ад М. В. Ламака, 45 г.*

378 Мой прáдз'ет пашóў на дарóгу, кап пагл'адз'éц' дз'е што. Л'атýц' два францýзы. Задз'аржáл'и йагó и рашы́л'и за-брáц'. Уск'йнул'и на йагó м'ашóк. Прыв'ал'й ў карчмý. На

дварé л’ажáла мнóга дроў. Тут жа был’и́ и кýры. Адз’и́н астáўс’а лав’и́ц’ кýры, а друг’и́ пайéхаў. Францýс кáжа дз’éду, кап той лав’и́ў кýры. А кýры заб’и́л’ис’а пад дрéвы. А прáдз’ет быў таўсты́, бóл’шы н’ийáк н’и падл’éз’а пад дрéва. Тады́ прáдз’ет падн’áў б’ерв’анó, а францýс падл’éс пад йагó. А прáдз’ет [апусціў] б’ерв’анó и уц’óк з м’éхам. Шоў адз’и́наццац’ к’илам’éтраў, ал’е йагó ц’икáв’ила, што ў м’ашкý. Зашóў у йéл’н’ик, разв’азáў тóрбу и убáчыў, то там часы́, зóлата, грóшай мнóга. А ў гéты час л’ýдз’и хавáл’ис’а ў л’éс’и, убáчыл’и йагó, зац’икáв’ил’ис’а, што йон рóб’иц’. Убáчыл’и грóшы, нак’и́нул’и [яму] м’ашóк на галавý, грóшы забрáл’и и уц’акл’и́.

*Запісана ў 1948 г. М. А. Жыдовіч ад І. Д. Чабана, 63 г.*

## Магільна

379 Зáўтра тре кóнчыц’ выб’ирáц’ картôфл’у. У вас бýдз’а два плуг’ê. Прáўда, гéтага мáла. Гл’адз’êц’а, кап картôфл’у н’и пак’идáл’и, трéба вы́в’ас’иц кашê, а пóтым ужо хай ссыпáйуц’. Кладаўшчы́к бýдз’а в’éс’ц’и учôт. И кôжны дз’ис’áты кôш атдавáц’ бáб’и. У л’êс пайêдуц’ тôл’к’и з дазвóлам старшын’и́. Апанáс бýдз’а ваз’и́ц’ навôс и нак’идáц’, жанчы́нам жéртк’и прыв’êс’ц’и и загатóв’иц’ калк’ê, пашл’êц’а зáўтра на кôл’йа па аднамý чалав’êку з брыгáды, там ус’ó дадóм. На падводз’и зав’аз’êц’а к’ирп’и́ч.

*Запісана ў 1952 г. Я. М. Рамановіч ад розных асоб.*

## Касцяшы

380 Старáйа йа ужé. Мнóга гóра бáчыла. Сынê майé параз’йажжáл’ис’а. А пóтым вайнá. Майé вóчы н’и гл’адз’áц’, плáчу. Сы́на заб’и́л’и н’êмцы. Былó хóладна, марôс быў в’ал’и́к’и. Пйац’ дз’он быў у л’êс’и, н’ийáк да свайи́х прыс’ц’и́ н’и мôх. М’ан’é супакóйваў, гавары́ў: «Дадôм им, дадôм». Н’éйак прыйêхал’и парц’изáны. Ув’éс’ двôр кóн’м’и запрудз’и́л’и. А мы с’аджôм и нагл’адз’éцца н’и мóжам.

Йа рáна зáмуж пашлá, и раб’и́ла ус’ý жéн’ску рабóту. А пóтым и скарóдз’ила, и гнôй ваз’и́ла, аднó тôл’к’и н’и арáла. Былó чац’в’óра дз’ац’éй, б’и́лас’а н’éйак з аднôй карóвайу.

*Запісана ў 1952 г. Я. М. Рамановіч ад К. С. Пармон, 73 г.*

## Касцюкі

381 Сахá раб’и́лас’а так. Выкóпвайацца йéлка, дз’в’ê лáпы рôўныйа, йак у плýз’и рýчк’и. Гéты кóран’ пам’и́ш в’и́лачак вы́дз’аўбайаш пас’арôтку. Кусóк б’арéз’ины ў дз’и́рку зарôбл’ивайуц’— гéта плáха. У плáс’и ат хвастá зноў дз’и́рка вы-

дз'ôўбуйецца пас'арôт и ста́в'ацца наро́г'и жал'êзныйа з ву́шкам'и. Два наро́г'и — спа́дак и в'архн'а́к. Патпа́лак у кавал'а́ ро́б'ицца, або дз'арав'а́ны, у им кручо́к, рага́ч. У йом была́ ўв'е́рс'и пал'и́ца, у в'е́рхн'ум наро́з'и, у спôдн'ум наро́з'и — прыпо́лак. На кан'е́ц рагача́ ро́б'ацца аглôбл'и, прыпо́лак, дз'в'ê кац'ôлк'и́. Рага́ч у дз'и́рк'и ста́в'ицца. И дл'а чаго́ ге́та вам ус'о́ в'êдац'? Ц'ип'е́р саха́ н'и тре́ба. Цип'е́р тра́хтар, жал'êзныйа плуг'и́, ско́ра ко́н'и н'и патре́бны бу́дуц'. Йа н'и пôмн'у дôбра ўс'е ча́стк'и сах'и́, мо й н'и пра́ўду вам сказа́ў.

*Запісана ў 1952 г. ад М. Ц. Трухан, 82 г.*

### Буда (№ 491)

382(*) Бу́дам [лён] слац', кап л'ажа́ў. Патôм бу́дам падн'има́ц', ц'е́рн'ицайу це́рц'и. Траплôм трêпл'ам, атл'ата́йа атрêп'а, кастры́ца. Харо́шы л'он, харо́шайа жм'е́н'а. Грêб'ан', у йом жал'êзныйа зубы́ абдз'ира́ц' л'он. Кудз'е́л'и на м'ашк'и́. Ку́жал', шы́л'и кашу́л'и. С канап'е́л'. Йайе́ тру́ц'ац', в'аро́ўку кру́ц'ац'.

П'ишêц'а: во́ўк, м'адз'в'е́ц', йест лôс', ваўчы́ца, ваўчан'а́та, вавйôрка, за́йац па л'êс'и, вужа́к'и йест, с'л'и́м'ан', куса́йа л'удз'е́й, хо́дз'иц', йак жа́ба. Жа́бы ква́кайуц, у вадз'ê, жабуры́н'а, йест апало́н'ик'и, пйа́ўк'и... Мно́га тре́ба блакно́таў!

*Запісана ў 1956 г. студэнткай Магілёўскага педінстытута Я. А. Крывіцкай.*

## ПУХАВІЦКІ РАЁН

### Парэчча (№ 489)

383 Ц'ап'е́р у нас ха́та йак ха́та. А вот йа йашче́ пôмн'у, йак даўн'êй ха́ты кура́выйа был'и́. Ак'е́нца у ха́тах был'и́ мал'е́н'к'ийа, а шкла н'а было́, то з'б'ира́л'и кава́лачк'и, и ўс'о кл'ино́чкам'и застаўл'а́л'и. Так'и́йа и вôкна был'и́. А даўн'êй кôм'ина н'а было́ у ха́ц'а, п'еч была́ так з дз'и́ркайу. Дым ишо́ў про́ста на ха́ту и выхо́дз'иў праз дз'в'е́ры. Дак бува́ла стôл'к'и накапц'и́ц', што стôл' ста́н'а да таго́ чôрнайа, аж бл'ишчы́ц'. Йа ге́та в'êдайу. Про́ўда, за майу́ па́м'ац' так'и́х хат ма́ла было́.

384 Быў йа на м'икала́йаўскай вайн'ê. Тôл'к'и йа ў байо́х н'а уча́стуваў. Йа прыйêхаў у Калу́гу, н'идз'ê н'а вайава́ў. Прыйêхал'и, стоў йа на камы́с'ийу. А йа быў б'алаб'ил'е́тны, у ман'е́ рука́ ц'акла́, бракôўны быў. Там м'ан'е́ и вы́бракавал'и. Тро́ха ў ако́пы ган'а́л'и, фронт тады́ л'а Бара́нав'ич быў. Мы пахадз'и́л'и туды́-с'уды́ л'а фро́нта, и м'ан'е́ дамо́ў атпус'ц'и́л'и.

А по́тым, у вас'имна́ццатум го́дз'а, н'ѐмцы прышл'и́. Пры́дуц' у Ша́цак, вѐз'муц' падво́ду ды й пайѐдуц'. Прабыл'и́ йаны́ у нас йакра́с во́с'им м'ѐс'ацаў, а прышл'и́ у ма́рцы. Заб'ира́л'и н'ѐмцы ў нас с'в'ин'н'е́й, ко́н'ай. Ал'е л'удз'е́й н'а чапа́л'и. А по́тым йаны́ вы́шл'и. Картѐпл'у [мы] выб'ира́л'и. М'и́рна вы́шл'и. Была́ сра́зу Сав'ѐцкайа ўлас', по́с'л'а н'ѐмца.

А л'а дваццатага го́ду пал'а́к'и прышл'и́. Йа жыў тагды́ у В'ац'аро́в'ич. М'ан'е́ злав'и́л'и и крыча́ц': «В'аз'и́ ў Ша́цак!» Ну, йа й пав'о́с. Кѐн' б'ажы́ц' и так, а йон ус'о́ крычы́ц': «Ху́тка! Пре́ндзай!» Йа паган'о́ў, паган'о́ў, да й гавару́: «Йак жа пре́ндзай?!» А йон н'е́шта крычы́ц' и прыкла́дам маха́йа, што гл'адз'и́ — бо дам. Тагды́ йа к'и́нуў л'е́йцы: «На ш, сам йѐц'!» А йон ус'о́: «Ху́тка, пре́ндзай!» Ал'е сам уз'о́ў л'е́йцы. Йон у п'аратку́ с'адз'е́ў, а йа уза́дз'а. А йон паган'а́йа и ўс'о н'е́шта крычы́ц'. «Па́н'а, йа н'а в'ѐдайу, што вы мн'е́ гаво́рыц'а»,— кажу́ йа. Йа зав'о́с йаго́ у Ша́цак, аддыхну́ў и пайѐхаў даха́ты.

*Запісана ў 1949 г. П. П. Шубай ад Н. С. Гурыновіча, 66 г.*

385 Пайѐхаў ге́та адз'и́н дз'а́ц'ка на база́р у М'и́нск с Парѐчча. Йон ры́бу прадаво́ў И сышо́ўс'а з друг'и́м дз'а́ц'кам, и тѐй прадаво́ў рыбу.

— Атку́л' ты, дз'а́ц'ка? — пыта́йецца йон у йаго́.

— С Парѐчча,— ка́жа той.

— То й йа ш с Парѐчча. Тѐл'к'и йа ц'аб'е́ н'ѐшта н'а зна́йу.

А тѐй ка́жа:

— И йа ц'аб'е́ н'а зна́йу.

— То йак жа? Йа ш ў Парѐччы ус'и́х л'удз'е́й зна́йу.

— Йано́ та й йа зна́йу.

— Дак ты ка́жаш с Парѐчча? На Пц'и́чы?

— На Пц'и́чы,— тѐй ка́жа.

— Ну, то йа н'ийа́к н'а пайму́. А йако́га с'ел'сав'ѐта?

— Парѐцкага.

— А мы Пу́хав'ицкага райо́на.

От йак было́. Так што ў нас дз'в'е́ Парѐччы.

*Запісана ў 1949 г. П. П. Шубай ад І. А. Шашка, 25 г.*

## Веркалы (№ 488)

386 Кал'и́ у калхо́з'а был'и́ мы (да н'е́мцаў, ба́чыц'а, йшче ге́та было́) — мы на фу́тары жыл'и́. У м'ан'е́ было́ два сыны́, адз'и́н вучы́ўс'а на л'иц'ина́нта, а друг'и́ у а́рм'ийи быў.

А по́тым кал'и́ сказа́л'и — вайна́ пачала́с'а, дак йа ду́маў, йа ш стары́. Ус'е́ уц'ака́йуц, а йа бу́ду тут. Мо́жа м'ан'е́ н'а зачѐп'ац'. Ажно́ прышл'и́ ц'ераз н'е́кул'к'и дз'он йаны́ пйа́ныйа ув'е́чар и патпал'и́л'и. На фу́тары ус'о́ згаре́ла, мы то́л'к'и павыска́кал'и ў кашу́л'и. И от ц'ап'е́р буду́йамс'а. Хл'ава́ то́л'к'и н'а прыкры́л'и.

387 У м'ан'е́ было́ то́л'к'и паўтары́ дз'ас'ац'и́ны — шо́стайа ча́стка. Кагда́ з'в'аргну́л'и гасудара́, тады́ ста́л'и дз'ал'и́ц', то да́л'и тады́ и нам. Так што жыц' было́ к'е́пска тады́, пры пано́х. Прыхо́дз'илас'а найма́цца. Па́с'ц'иц' каро́вы ў бало́тах. А бало́та был'и́ в'ал'и́к'ийа, ц'и адна́ каро́ва прапа́ла тады́. Ц'а́шка жыц' было́.

Был'и́ так'и́йа пам'е́шчык'и, што займа́л'и палав'и́ну райо́на, Узду́, и там, пад М'и́нск.

А ц'ап'е́р дажыл'и́с'а, што ўс'о наро́днайа, на́ша.

*Запісана ў 1948 г. П. П. Шубай ад Н. С. Тарасевіча, 68 г.*

388 Мы ў л'е́с'е был'и́, а тут пал'ице́йск'ийа найе́хал'и, и на́шы страл'а́йуц' у йих. Страл'а́йуц', страл'а́йуц' у йих, а йаны́ ку́хн'у в'азу́ц', ге́так во, а йак страл'а́йуц', дак йаны́ аш пакл'е́нчац'.

Уз'а́л'и м'ан'е́ пал'ице́йск'ийа, и к кам'инда́нту. Там ба́чу — Вас'и́л' Катл'и́нск'и стайи́ц'. Кам'инда́нт п'ерш-на́п'арш папыто́ўс'а у м'ан'е́, хто йон. Вы́н'ал'и па́спарт. Вас'и́л' Катл'и́нск'и, йон харо́шы чалав'е́к. А та́мака на варо́тах у йаго́ нап'и́сана было́: «Дало́й Г'и́тл'ар! Масква́!»

Ну, дак по́с'л'а пыта́йуцца, дз'е парц'иза́ны у вас. Йа кажу́: «Н'а в'е́дайу. За душу́ б'ары́с'а, за к'ише́н'у ужо́ н'а б'ары́с'а. Хто йих в'е́дайа, пано́к, ц'и йаны́ пат ка́ждым кусто́м, ц'и н'е. Мо́жа кал'и́ тры про́йдз'а, мо тры́ццац'».

А йак йих каманд'и́ры заву́цца?

— А хто ж йих, пано́к, в'е́дайа.

А йа ж йих, йак вас, у л'ицо́ ус'их в'е́дала, ба́чыла, ал'е́ ш н'и ска́жу.

— Йе́хала ты на машы́н'а?

— Йе́хала й на по́йаз'дз'а, й на машы́н'а.

— То тре́ба ж вам у Ша́цак.

— Пано́чак, — йа кажу́ йаму́, — то йа ж н'а зайду́. Йа ис с'ил вы́б'илас'а.

Йон м'ан'е́ й атпусц'и́ў дадо́му.

Дак прышла́ йа с'уды́, а тут разру́шана, раз'б'и́та ус'о́, и во́кна. У с'астры́ йачм'е́н'у два м'ашк'и́, парассыпа́на ус'о́, парас'к'ида́на б'ал'л'о́. Йа ўс'о пасаб'ира́ла, а по́сл'а йе́дз'а адз'и́н ко́нны. Йа вы́шла ваду́ брац'.

— А у вас ба́рышн'и йест? — пыта́йа йон.

— Йест.

— А дз'е ш йаны́?

— У л'е́с'а.

Йон накрыча́ў на м'ан'е́ и пайе́хаў.

А йа хац'е́ла шче ма́йу * заткну́ц'. Вей-вей! Да уз'л'е́зла на п'еч, да й л'ажу́, а тут изноў прыхо́дз'ац': «Пайе́дз'ам ў Ша́цак, прышл'и́ дз'в'е падво́ды».

— Ц'и йих ра́зам саджа́ц', — пыта́йуц', — ц'и паатдз'е́л'на?

